НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 2 (743) 18 студзеня 2012

www.nn.by

# Наша Ніва

П Е Р Ш А Я   Б Е Л А Р У С К А Я   Г А З Е

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у



## Самыя сэксуальныя жанчыны Беларусі

Вядомыя беларускія мужчыны разыходзяцца ў вызначэнні сэкс-сімвала краіны. Старонка 9.

# «Начальства паабяцала»

**Выступы рабочых** у Магілёве, Мікашэвічах, Віцебску: розныя вынікі. **Старонка 3.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Тэндэнцыі

## «Вопыт працы ў КДБ вельмі карысны»

Першым намеснікам кіраўніка міліцыі стаў **кадэбіст Ігар Шуневіч**.

Неспакойныя дні цяпер у органах МУС. Не так даўно пасады і волі пазбавілі намесніка міністра Яўгена Полудня. Цяпер жа ў адстаўку з фармулёўкай «за здзяйсненне ўчынкаў, што дыскрэдытуюць званне супрацоўніка міліцыі» адпраўлены першы намеснік міністра Алег Пякарскі.

Праўда, крымінальную справу на Пякарскага не завялі. Прынамсі, пакуль. А вось ягонае месца доўга не пуставала. Ужо на наступны дзень Лукашэнка прадставіў Ігара Шуневіча, які да гэтага працаваў начальнікам упраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй у КДБ.

«Мяркую, той досвед, які вы набылі ў КДБ, вельмі вам карысны. Але самае галоўнае — праца ў КДБ (а апошнім часам вы якраз займаліся кантролем працы праваахоўных органаў) дала вам магчымасць убачыць знутры ўсе праблемы Міністэрства ўнутраных спраў», — так прадстаўляў Шуневіча Лукашэнка.

Новы намеснік міністра займаўся пытаннямі карупцыі ў вышэйшых эшалонах улады. Напэўна, у тым ліку інспектаваў і МУС. «Па-першае, гэта спакуса хуткага і вялікага ўзбагачэння. Па-другое, гэта пытанні сацыяльнага развіцця грамадства, эканамічнага», — так Шуневіч тлумачыў карупцыю сярод чыноўнікаў.

**Працяг на старонцы 2.**

Грошы

### Перадзел гатэльнага бізнэсу

Ці пусцяць замежнікаў у вотчыну Кіраўніцтва справаў прэзідэнта? **Старонкі 2, 5.**



Госці

### Дарагія мае масквічы

Беларускія цішыня і спакой расейцам па кішэні. **Старонка 6.**



Камертон

### Наменклатурнае паліто

Наменклатура сваіх не здавала. Каментар Сяргея Ваганава. **Старонка 8.**



Гісторыя

### Пра недарэчнасці і навуковую этыку

Пра Збор твораў Максіма Танка піша Анатоль Сідарэвіч. **Старонка 13.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# «Вопыт працы ў КДБ вельмі карысны»

Працяг са старонкі 1.

Цікавую рысачку да партрэта сілавіка дадае рэдактарка сайта «Хартыя-97» Наталля Радзіна. Яна кажа, што Шуневіч пасля Плошчы вёў гутаркі, а фактычна допыты палітвязняў, хоць гэта не ўваходзіла ў яго непасрэдную кампетэнцыю на ранейшай пасадзе.

Лукашэнка паспрабаваў абвергнуць чуткі пра супрацьстаянне МУС і КДБ, якія з'яўляюцца апошнія гады. «Раю вам з першага ж дня паказаць, што вы не проста чалавек, які прыйшоў з КДБ у МУС. Што, маўляў, у нас ледзь не барацьба ідзе паміж КДБ, МУС і гэтак далей».

Сапраўды, як толькі адбылося прызначэнне кадэбіста ў МУС, пачуліся галасы, што «Сям'я» ставіць у міліцыю свайго чалавека».

Зрэшты, нешта падобнае гучала і пасля адстаўкі Уладзіміра Навумава. У той час канфлікты паміж двума ведамствамі нярадка выходзілі ў публічную прастору, як тое было па «справе паляўнічых» на Гомельшчыне ці справе Грамовіча.

Пасля прызначэння Куляшова канфліктаў сілавікоў заўважана не было. Тым не менш, сярод кіраўніцтва МУС зноў пачалася «чыстка».

**Зміцер Панкавец**

## Пякарскі «дыскрэдытаваў званне супрацоўніка міліцыі»






Алег Пякарскі дэманструе доказы віны Канавалава па справе тэракта 11 красавіка.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Міністр Куляшоў аб'явіўся… у Францыі**

З 17 па 20 студзеня з афіцыйным візітам у Генеральным сакратарыяце Інтэрпола (Ліён) знаходзіцца дэлегацыя беларускай міліцыі на чале з Анатолем Куляшовым. Куляшоў знаходзіцца ў спісе беларускіх чыноўнікаў, якім забаронены ўезд у ЕС. Доўгі час ягоныя абавязкі выконваў першы намеснік міністра. Праходзіла інфармацыя, што Куляшоў цяжка хварэе.

# Перадзел гатэльнага бізнэсу

### Ці дазволяць расійцам, іранцам і кітайцам прыйсці ў вотчыну Кіраўніцтва справаў прэзідэнта?

Да 2014 года ў Мінску павінна з'явіцца больш за 20 новых гасцініц. Такія гучныя абяцанні сталічныя чыноўнікі даюць штомесяц. Праўда, з кожным іх выступам змяняецца і лічба. Звычайна — у бок павелічэння. Дата правя-дзення Чэмпіяната свету па хакеі ва ўяўленні чыноўнікаў з'яўляецца нейкім рубіконам, які раздзеліць развіццё горада на «да» і «пасля».

«Наша Ніва» сабрала інфармацыю пра ўсе праекты, на рэалізацыю якіх спадзяецца Мінгарвыканкам. Відавочна, удаецца не ўсё задуманае. Многія замежнікі пасля падпісання інвестыцыйнай дамовы забываюцца на будоўлю, і ўчастак пераходзіць у іншыя рукі. Пры гэтым і гатэль змяняе свой праектны выгляд, часта так, што і не пазнаць. Так, напрыклад, у пачатку студзеня чыноўнікі радасна адрапартавалі аб заключэнні новай дамовы. Кіпрыёты паабяцалі пабудаваць каля стадыёна «Дынама» комплекс Mara Hotel. Вось толькі зусім нядаўна дазвол на будаўніцтва 34-павярховага гатэля тут выдаваўся... туркам. І гэта далёка не адзінкавы прыклад.

### Сваімі сіламі

Гатэлі, імавернасць з'яўлення якіх блізкая да 100%, — перадусім тыя, што будуюцца дзяржаўнымі кампаніямі.

Самы ўнушальны з іх — другі корпус гатэля **«Вікторыя»**. Працяг любімай справы былога мэра Міхаіла Паўлава даручылі выконваць польскім будаўнікам. 4-зоркавы гатэль будзе змяшчаць 259 нумароў, басейн і каштаваць каля 50 мільёнаў еўра. У параўнанні з першым корпусам, другі будзе выглядаць гмахам — у ім будзе 21 паверх. Уласнікам элітнага гатэля будзе камунальнае прадпрыемства «Бізнэс-цэнтр «Сталіца».

Той жа кампаніі будзе належыць гатэль каля Лошыцкага парку **«Любанскі»**. Ён будзе мець тыя ж чатыры зоркі, што і «Вікторыя». Пад гатэль пераробяць не саму сядзібу, а былы бровар, які знаходзіцца па іншы бок моста. У яго нейкім чынам усунуць 150 нумароў, SPA і фітнэс-цэнтр з басейнам, салон прыгажосці, ды яшчэ і пакінуць півоварню.

Працяг на старонцы 5.

**Цытата**

**«Мой сын — герой! Ён прайшоў праз цяжкія выпрабаванні і ўсё вытрывае. Але кожны ўсё роўна будзе адказваць за тое, што здзейсніў».**

Лідзія Аўтуховіч, маці палітвязня Мікалая Аўтуховіча
«Народная воля»

# Год па Віталю Тарасу

Ужо год, цэлы год, як у ноч на 18 студзеня 2011 памёр шматгадовы аўтар «НН», публіцыст, сябар Беларускага ПЭН-цэнтра і Беларускай асацыяцыі журналістаў Віталь Тарас. Ён доўга і цяжка змагаўся з анкалагічным захворваннем. 18 студзеня сябры і калегі маюць наведаць магілу Віталя Тараса на Паўночных могілках.

«Некалі Генры Форд вельмі дасціпна сказаў: «Сумленны журналіст прадаецца толькі адзін раз». Ну, дык вось, я «прадаўся» сваёй прафесіі аднойчы і назаўсёды», — пісаў пра сябе Тарас.

Паступіўшы на біяфак, ён адчуў пакліканне журналіста: «Самае вялікае шчасце — гэта калі твая прафесія і любімы занятак (хобі) супадаюць. А калі табе за гэта яшчэ часам і плацяць!..» — жартаваў ён.

Віталь таксама пісаў, што вялікі ўплыў на яго зрабіла сяброўства з Ігарам Герменчуком і Сяргеем Дубаўцом: «Пытання, з кім быць і як сябе паводзіць у гэтым жыцці, пасля ніколі не ўзнікала».

**МБ**



## Сцісла

### Сапёры, а не тэрарысты

17 студзеня інтэрнэт абляцелі фота і відэа чатырох мужчын, якія выходзяць пасля выбуху са станцыі метро «Кастрычніцкая» з кандэнсатарнай падрыўной машынкай. Кадры былі знятыя карэспандэнтам інфармагенцтва БелТА. МУС адкаментаваў, што на фота — сапёрна-піратэхнічны разлік, які выходзіць са станцыі пасля яе абследавання. «Першапачатковая інфармацыя была толькі пра тое, што ў метро быў хлапок. Ніякіх падрабязнасцяў. Супрацоўнікі ўзялі з сабой усё абсталяванне, якое магло спатрэбіцца, і выехалі», — паведамілі ў МУС.

### Голыя здымкі

Студэнтку, што здымалася аголенай у мінскім метро, аштрафавалі на 70 тыс. Яе затрымалі на станцыі метро «Усход» 17 студзеня у 1.10 ночы. Суд аштрафаваў правапарушальніцу на дзве базавыя велічыні. Дзяўчына 1990 года нараджэння — студэнтка аднаго з гуманітарных факультэтаў БДУ, жыве ў інтэрнаце

### 21 студзеня — талака на Кальварыі

«Спецкамбінат» змясціў на шэрагу магілаў папярэджанні: калі яны не будуць упарадкаваныя, з імі абыдуцца «ў адпаведнасці з заканадаўствам». Магілы знаходзяцца ў гістарычнай частцы Кальварыі, дзе пахаваныя беларускія дзеячы і шляхта. Пробашч касцёла на Кальварыі запрашае дапамагчы ў парадкаванні магілак, каб магілы не знеслі. 21 студзеня адбудзецца талака. Пачатак а 10-й.

### Зіма прайшла? Да канца тыдня пацяплее

19 студзеня ў Беларусі — мяцеліца. Тэмпература паветра ноччу мінус 3–10°С, па ўсходзе мінус 11–14°С, днём мінус 2–8°С, па паўднёвым захадзе каля 0°С. 20 студзеня воблачна з праясненнямі. На захадзе мокры снег. Тэмпература паветра ноччу мінус 1–8°С, па ўсходзе да мінус 10°С, днём 0 — мінус 5°С, па паўднёвым захадзе Брэсцкай вобласці да плюс 2°С.

**СГ**

### Самае чытанае на nn.by за 11—17 студзеня

1. Самыя сэксуальныя жанчыны Беларусі
2. Забітую школьніцу знайшлі закапанай каля яе хаты
3. Фотазагадка: Якія паслугі рэкламуе дзяўчына на фота?
4. Хакеіст Лукашэнка стаў хітом Ю-Туба
5. Саннікаў прыслаў дзіўны-дзіўны ліст
6. Адкуль бяруцца ляпы кшталту Скарыны Піцерскага?
7. Кіраўнік Валожынскага раёна задае моду на трохмоўе
8. 17-гадовая сышла з жыцця акурат праз год пасля смерці хлапца
9. Так выглядае чалавек на 25-ы дзень галадоўкі — фота
10. Адраўлены ў адстаўку першы намеснік міністра ўнутраных спраў Алег Пякарскі

# Дэмарш рабочых мікашэвіцкага «Граніта»

Кожны пяты супрацоўнік прадпрыемства **выйшаў з афіцыйнага прафсаюза**.

Напрыканцы снежня мінулага года каля 600 супрацоўнікаў мікашэвіцкага «Граніта» выйшлі з афіцыйнага прафсаюза. З іх каля 200 чалавек перайшлі ў незалежны прафсаюз. Кіраўніцтва прадпрыемства і мясцовыя ўлады ў адказ задзейнічалі метад бізуна і перніка.

Старшыня Незалежнага прафсаюза гарнякоў Мікалай Зімін расказаў «НН» пра акалічнасці падзеі. Па яго словах, незадаволеныя парадкамі на «Граніце», супрацоўнікі даведаліся пра незалежны прафсаюз з інтэрнэту.

«Звязаліся з намі, папрасілі дапамогі. Мы ім патлумачылі працэдуру пераходу з аднаго прафсаюза ў другі». Старшыня прафсаюза кажа, што супрацоўнікаў «Граніта» на такі крок падштурхнулі розныя прычыны. Людзі наракалі на хамскае стаўленне начальства і нізкія заробкі. «Кіроўцы БелАЗаў» на той момант атрымлівалі каля 2,2 мільёна рублёў, а за змену трэба адпрацаваць 12 гадзін».

Атрымаўшы неабходныя парады, рабочыя правялі ўсе неабходныя працэдуры: напісалі заявы ў афіцыйны прафсаюз, правялі на прадпрыемстве сход, дзе абралі кіраўніка першаснай арганізацыі, кантралюючыя і кіруючыя органы. Незалежны прафсаюз гарнякоў у сваю чаргу належным чынам аформіў неабходныя паперы. Пасля гэтага былі пададзеныя дакументы ў Лунінецкі райвыканкам на рэгістрацыю арганізацыі.

«Каб зарэгістраваць нас, райвыканкаму неабходна выдзеліць юрыдычны адрас. Але адпаведныя паўнамоцтвы мае толькі ўласнік прадпрыемства — Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва», — расказвае Мікалай Зімін. На дадзены момант прафсаюз чакае гарантыйны ліст з міністэрства.

Кіроўцам БелАЗаў паднялі заробкі »



**«Граніт»**

Рэспубліканскае ўнітарнае вытворчае прадпрыемства «Граніт» заснаванае ў 1975. Знаходзіцца за 8 км ад Мікашэвіч (Лунінецкі раён). Гэта адзін з найбуйнейшых у Еўропе вытворцаў шчыльных горных парод — у год прадпрыемства выбрабляе да 11 млн т шчэбеню. На «Граніце» працуе каля 3000 чалавек.

**Праца на «Граніце» цяжкая і нізкааплатная.**

### Сумар у гневе

Рэакцыя кіраўніцтва «Граніта» і мясцовых уладаў была нервовай. Па словах старшыні новаўтворанай пярвічкі Алега Стахаевіча, кіраўнікі прадпрыемства ўсіх узроўняў пагражалі стратай надбавак і прэмій, а таксама тым, што ўсім «перабежчыкам» не працягнуць кантракты.

У Мікашэвічы прыязджаў кіраўнік вобласці Канстанцін Сумар. Ён заявіў, што на прадпрыемстве няма патрэбы ў незалежным прафсаюзе. Пры гэтым ён запатрабаваў адстаўкі гендырэктара «Граніта» Сцяпана Тураўца, які працуе ў Мікашэвічах ад 1974-га. Тураўца адправілі ў адпачынак, а звольнілі старшыню прафарганізацыі ФПБ Мікалая Якубовіча і начальніка аддзела працы і заробку Наталлю Малевіч.

### Забралі правы

Пад пагрозай звальнення апынуўся і Алег Стахаевіч. Лунінецкае ДАІ пазбавіла яго пасведчання кіроўцы нібыта за тое, што ён не прапусціў на пешаходным пераходзе бабулю. Алег — кіроўца БелАЗа, страта пасведчання для яго азначае звальненне.

«Гэтая гісторыя пакідае шмат пытанняў», — расказвае Мікалай Зімін. Відэазапіс інцыдэнту, у якім вінавацяць Стахаевіча, ім падаўся надзвычай падазроным. Зрабілі яго пры дапамозе схаванай камеры супрацоўнікі абласнога ДАІ. Акрамя таго, прафсаюзныя лідары і юрысты прыйшлі да агульнай думкі пра магчымы мантаж запісу.

На дадзены момант рыхтуецца абскарджванне. Пакуль не ўступіла ў сілу пастанова аб пазбаўленні Стахаевіча правоў, ён мае часовае пасведчанне і можа з ім працаваць».

### Адток не масавы

Мікалай Зімін кажа, што пакуль рана казаць пра пераход рабочых у розных рэгіёнах краіны ў незалежныя прафсаюзы як пра сталую тэндэнцыю. Нават калі рабочыя не дэманструюць настойлівасць і паслядоўнасць у дасягненні канчатковай мэты, сам факт, што кіраўніцтва прадпрыемстваў ідзе на саступкі, таксама — плён іх супольнай працы.

У Мікашэвічах кіроўцам БелАЗаў паднялі заробак да 3 мільёнаў. «Галоўнае, што ў асобе незалежных прафсаюзаў рабочыя бачаць альтэрнатыву афіцыйным арганізацыям. Ім ёсць куды звяртацца», — падкрэслівае Мікалай Зімін.

**Сямён Печанко**

**ФПБ**

У шэрагах афіцыйнага прафсаюза налічваецца больш за чатыры мільёны чалавек. Лідарам з'яўляецца Леанід Козік.

**Незалежныя прафсаюзы**

Незалежныя рабочыя суполкі аб'яднаныя ў Беларускі кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў (БКДП). У склад кангрэса ўваходзяць чатыры арганізацыі: Беларускі незалежны прафсаюз, Свабодны прафсаюз металістаў, Свабодны прафсаюз Беларускі і Беларускі прафсаюз работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці (РЭП). Сябрамі БКДП з'яўляюцца каля 10 тысяч чалавек.

## Магілёўскія муляры заступіліся за свайго

Магілёўскія будаўнікі **падтрымалі свайго калегу**, барацьбіта за правы працоўных Аляксея Паўлоўскага.



Напачатку студзеня кіраўніцтва магілёўскага прадпрыемства «Прамжылбуд» не працягнула кантракт з мулярам Аляксеем Паўлоўскім. Пасля гэтага ўсе 15 рабочых з яго брыгады напісалі калектыўную заяву аб звальненні, а таксама аб выхадзе з афіцыйнага прафсаюза.

Праўда, ужо праз некалькі дзён большасць з іх адклікала свае подпісы.

«Гэта ўнікальны для Беларусі выпадак, калі адразу столькі чалавек падтрымалі калегу», — гаворыць магілёўскі праваабаронца Барыс Бухель. Але рашэнне падпісаць такую заяву — эмацыйнае. «Людзі бачаць, у якіх жудасных умовах яны працуюць, што іх правы парушаюцца, а Аляксей іх абараняе». Таму і заступіліся.

Калі справа трапіла ў СМІ і набыла шырокі рэзананс, рабочых пачалі па адным выклікаць у адміністрацыю прадпрыемства на размову.

«Камусьці прыгразілі высяленнем з інтэрната, у кагосьці сын ці дачка недзе вучыцца, і людзі збаяліся», — лічыць Бухель.

«Мы напісалі заяву на імя дырэктара, каб з Паўлоўскім працягнулі кантракт. Ніякіх палітычных падтэкстаў тут не было», — кажа Ігар Палякоў, рабочы з брыгады Паўлоўскага. Ён абураецца, што беспадстаўна выганяюць добрага працаўніка, муляра 5 разрада. Лічыць, што ў цэлым патрабаванні Паўлоўскага правільныя. Тым не менш, Ігар вырашыў забраць заяву. «Свой подпіс я адклікаў, але прасіў начальства, каб з Паўлоўскім быў працягнуты кантракт».

Сам Аляксей не верыць, што застанецца працаваць на «Прамжылбудзе». Аднак ён і надалей збіраецца абараняць правы працоўных. Хоць сам з-за гэтага страціў працу.

**Аксана Рудовіч, Магілёў—Мінск**

**БТ пра магілёўскага муляра — «анекдот і правакацыя»**

«Думалі салідарнасць, аказалася правакацыя. Муляр з Магілёва ледзь не пазбавіў працы 15 калегаў», — так апісвае ў сваім сюжэце пра Паўлоўскага карэспандэнт БТ. З сюжэта вынікае, што муляр нібыта падставіў сваю брыгаду, угаварыўшы іх падпісацца ў яго абарону, і нават не патлумачыў, што ў петыцыі гаворыцца пра калектыўнае звальненне. Паўлоўскі вачыма бэтэшніка выглядае нядбайным работнікам і прайдзісветам.

## «Начальства паабяцала»

**Віцебскія будаўнікі** передумалі пратэставаць

Пра гэта «Нашай Ніве» паведаміў будаўнік камбіната Аляксандр Кошалеў. На мінулым тыдні ён і сем яго калегаў заявілі пра выхад з афіцыйнага прафсаюза. Яны збіраліся перайсці ў шэрагі Беларускага Незалежнага прафсаюза (БНП). Прычынамі выхаду з ФПБ будаўнікі назвалі нездавальняючую працу прафсаюза і кепскія ўмовы працы.

Нібыта ім змянілі графік працы, пагражалі ўлічваць кожны перапынак і замест васьмі гадзін працоўнага часу аплачваць толькі сем. Бунт у Віцебску трываў некалькі дзён. «Забралі мы заявы. Начальства паабяцала палепшыць умовы працы, заробак павысіць у першым паўгоддзі. Мы вырашылі даць кіраўніцтву шанец», — расказаў «НН» Аляксандр Кошалеў. Па яго словах, заявы забралі ўсе, і ён у тым ліку. «Я раней хлопцам казаў, што не забяру заяву, калі не будзе аднагалоснага рашэння. Тут вырашылі ўсе». З кожным з будаўнікоў гутарылі індывідуальна.

Аляксандр Кошалеў падкрэслівае, што ў выпадку невыканання патрабаванняў будаўнікі гатовыя паўтарыць свой дэмарш.

Аляксандр Кошалеў мяркуе, што кіраўніцтва прадпрыемства ўсё ж не падмане і пойдзе на саступкі. Сёння, кажа ён, супрацоўнікам камбіната выдалі новае спецадзенне. Такога тут не было больш за год.

**СП**

# Пасіўны/актыўны байкот/удзел

**Апазіцыя выбірае карысны для краіны варыянт з гэтых словаў.**



У 2008 выбары байкатавалі Пазняк, «Хартыя-97» і «Малады фронт».

Парламенцкія выбары ўжо не за гарой. Яны пройдуць у верасні, а то і раней. Тым не менш, апазіцыйныя сілы ўсё яшчэ не выпрацавалі сваю стратэгію для гэтай кампаніі.

У кампаніі чатырохгадовай даўніны апазіцыя ўдзельнічала. Многія купіліся на кулуарныя размовы, што ўлады прапусцяць некалькі чалавек з альтэрнатыўнымі поглядамі ў «палатку».

Тым не менш, увечары 28 верасня старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына абвесціла, што ў новы склад парламента трапілі толькі надзейныя людзі.

Прадпрымальнік з Барысава, сябра АГП Віктар Гарбачоў у тую ноч сказаў запамінальную фразу: «Нас кінулі!»

Прычыны для няўдзелу відавочныя: выбары зноў пройдуць сёлета па звычайным сцэнары, апазіцыю не дапусцяць да падліку галасоў. Нашто чарговы раз ламаць галавой сцяну? Другі немалаважны факт — наяўнасць у краіне палітвязняў. Выбары-2008 праходзілі пасля вызвалення Казуліна.

**Севярынец: Байкот адбудзецца сам па сабе »**

Пакуль пра свой адназначны няўдзел у новых выбарах заяўляюць Аб'яднаная грамадзянская партыя, Хрысціянская дэмакратыя, «Еўрапейская Беларусь» і КХП-БНФ. «Выбары ў дурдоме немагчымыя», — ярка адзначыў лідар АГП Анатоль Лябедзька.

«Агульнанацыянальная кампанія байкоту рэжыму можа стаць моцным крокам да адхілення дыктатара ад улады», — перакананы Віктар Івашкевіч. Ён выступае не за «ляжанне на канапе», а за актыўны байкот, то бок прасоўванне ў гэты час сваіх ідэй праз раздачу ўлётак, інфармацыйныя матэрыялы.

Палітвязень Павел Севярынец перакананы, што «байкот адбудзецца сам сабой». Апазіцыя ж павінна толькі фіксаваць яго. А яшчэ палітык прапануе правядзенне Усебеларускага народнага з'езда.

Да агульнага рашэння ў рамках «шасцёркі» (кааліцыя БНФ, АГП, БХД, «Справядлівы свет», Рух «За Свабоду», «Гавары праўду») яшчэ далёка. Некаторыя групы (Калякін, «Гавары праўду») не выключаюць, што пры пэўных умовах гатовыя вылучыць сваіх прадстаўнікоў. Альбо зняць іх у апошні момант (БНФ).

Магчыма, рашэнне пра фармат удзелу ў парламенцкіх выбарах магло быць разгледжанае на Кангрэсе дэмакратычных сілаў. Аднак апошнія пяць гадоў апазіцыя не збірала такіх масавых сходаў.

Каардынатар «Гавары праўду» Аляксандр Фядута лічыць: «Трэба спалучаць удзел у выбарах і ціск на ўладу праз пагрозу байкоту. Тым больш што насамрэч усё відавочна спалучаецца».

На яго думку, ідэі, сфарміраваныя Івашкевічам, мала чым розняцца ад тых, што былі падчас выбараў-2000. «Той байкот сэнсу наогул не меў, бо гэта было нічоганерабленне».

Сам лідар кампаніі Някляеў кажа, што гатовы ўдзельнічаць у палітычных кампаніях толькі ў выпадку выхаду з турмы ўсіх палітвязняў. «Актыўны байкот патрабуе нашмат большых сродкаў, чым удзел у «выбарах». Каб данесці прычыны байкоту да людзей, трэба рэсурс нашмат большы, чым мае ўся апазіцыя», — кажа Някляеў.

Ва ўдзеле апазіцыі ў выбарах зацікаўленая і ўлада. Напрыклад, Лідзія Ярмошына кажа: «Не будзе ніякага байкоту. Ніводная апазіцыйная партыя тады не зможа існаваць».

«Байкот саміх сябе», — называе эканаміст Сяргей Балыкін адмову АГП і іншых палітычных партый ад удзелу ў выбарах.

Тым не менш, выглядае, што гэтыя выбары апазіцыя будзе байкатаваць. Апошні раз гэты метад яна выкарыстоўвала ў 2000-м. Тады ў адказ улада была вымушаная прапусціць у палатку некалькіх «кіраваных апазіцыянераў». У наступныя выбары ўдзел не даў і гэтага.

**Зміцер Панкавец**

**Каментар**

### Пара склікаць З'езд

Як апазіцыі выкарыстаць «выбары» ў «парламент», што пройдуць у 2012-м? На гэтае пытанне няма ясных адказаў.

Удзел у «выбарах» бессэнсоўны, пакуль у краіне дыктатура і няма празрыстага падліку галасоў.

Людзі на выбары не пойдуць. Будуць заганяць праз прадпрыемствы і ставіць птушачкі, як ужо не раз бывала.

Але і пусты няўдзел не павялічыць «заўважнасць апазіцыі». А важна, каб людзі бачылі: іншы лад магчымы, краіна можа пайсці і ў іншым кірунку.

Каб выбраць дынамічны сцэнар, патрэбна легітымная трыбуна. Такой трыбунай можа стаць Кангрэс дэмакратычных сілаў або, у новай тэрміналогіі Севярынца, Усебеларускі народны з'езд. Акрамя пытання палітычнай тактыкі на 2012-ы, ёсць і стратэгічныя пытанні: як рыхтавацца да 2015-га.

**Мікола Бугай**

## Чаргінец: Каб не Някляеў, была б у Мінску вуліца Быкава

**Старшыня праўладнага саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец падтрымлівае ідэю прысваення імя Васіля Быкава адной з вуліц Мінска.**

Таксама ён вінаваціць апазіцыю ў тым, што гэтага яшчэ не адбылося.

«Калі б не Някляеў са сваімі палітычнымі лозунгамі па Быкаву («Гавары праўду» ініцыявала перайменаванне вул. Ульянаўскай у вул. Быкава і сабрала больш за 100 тыс. подпісаў — «НН»), мы б ужо мелі вуліцу Быкава», — заявіў М. Чаргінец.

«Вуліцы Быкава ў Гродне і Мінску мусілі з'явіцца калі не пры жыцці, дык, прынамсі, адразу пасля смерці Васіля Уладзіміравіча, — абсек яго Някляеў. — Дык што ўсе гэтыя гады рабіў Чаргінец — чаму не назваў вуліцу, калі Някляеў яму не перашкаджаў?

Сёлета на з'ездзе Саюза беларускіх пісьменнікаў быў прыняты зварот да Савета Міністраў і асобна міністра культуры. Пісьменнікі прапанавалі надаць імя Быкава Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, калі нельга пакуль назваць яго імем вуліцу. Чаму Чаргінец да гэтай ініцыятывы не далучыўся?» — запытваецца Някляеў.

**Сяргей Мікулевіч**


Уладзімір Някляеў з паплечнікамі сабралі тысячы подпісаў за вуліцу Быкава.

## «Прыемны сюрпрыз для кінаманаў»

**У Мінску больш не паказвае Euronews.**

У навагоднюю ноч дзяржаўны аператар МТІС спыніў трансляцыю канала. Да 1 студзеня Euronews свабодна трансляваўся ў сталіцы. Адключэнне было нібыта часовым, але сітуацыя не змянілася ўжо больш за два тыдні.

Кругласуткавы тэлеканал стаў ахвярай «спрэчак гаспадарчых суб'ектаў». Прынамсі, так спрабуе растлумачыць сітуацыю МТІС. Нібыта маскоўскія праваўладальнікі канала паднялі кошт рэтрансляцыі настолькі, што на яе не хапіла валюты. Кіраўніцтва кабельнага аператара даводзіць, што вядзе ў Маскве перамовы аб аднаўленні паказу. А пакуль што замест еўрапейскіх навінаў мінчукі глядзяць канал «НТВ+ Кінаплюс», «прыемны сюрпрыз для кінаманаў», як напісана на сайце МТІСа.

Прадстаўнікі Euronews пераконваюць, што накіравалі ў Мінск ліст з прапановамі аб супрацоўніцтве, аднак кантракт дагэтуль не складзены.

### Нябедны МТІС

Застаюцца пытанні і наконт таго, што кабельнаму аператару бракуе грошай. У кастрычніку 2011, якраз пасля чарговага павышэння тарыфаў на паслугі ЖКГ, спецыялісты «Мінскай гарадской жыллёвай гаспадаркі» падлічылі, колькі працэнтаў ад фактычнага кошту камунальных паслуг аплачваюць мінчане. Ужо тады сталічныя жыхары кампенсавалі тэлевізіёншчыкам 120%!



**Аляксандр Мілінкевіч праз Euronews расказваў пра сітуацыю ў Беларусі.**

З 1 лістапада паслугі МТІСа падаражэлі чарговы раз. «Сацыяльнае» тэлебачанне накшталт БТ і АНТ стала каштаваць на 27% больш, а астатнія каналы — на 13%. Акупляльнасць працы МТІСа, па ідэі, павінна была яшчэ вырасці. Куды ж падзеліся грошы?

### Шлях ТНТ

Існуе вялікая верагоднасць, што Euronews пойдзе сумным шляхам расійскага ТНТ. 1 мая 2011 года забаўляльны канал быў выкінуты з пакета трансляцыі МТІСа пасля некалькіх рэзкіх жарцікаў з Лукашэнкі. На Euronews нярэдка з'яўляліся аб'ектыўныя рэпартажы з Беларусі, часам нават гутаркі з апазіцыйнымі палітыкамі. Працу тэлеканала крытыкаваў Лукашэнка.

**Ягор Марціновіч**

**МТІС (Мінскія тэлевізійныя інфармацыйныя сеткі)**
найбуйнейшы сталічны аператар кабельнага тэлебачання. Яго паслугамі карыстаюцца 550 тысяч сталічных сем'яў — каля 85% насельніцтва Мінска. 100% акцый МТІС належаць дзяржаве. Кошт паслугаў — 1 140—22 220 рублёў штомесяц.

**Euronews**
навінны канал Еўрапейскага вяшчальнага саюза. Пачаў працу ў 1993. Цэнтр кіравання знаходзіцца ў французскім Ліёне. Трансляцыя ідзе на 11 мовах, у тым ліку расійскай і ўкраінскай.

Каб адключыцца ад паслуг МТІСа, дастаткова пазваніць на нумар 218-09-09 і пакінуць сваю заяўку.

# Перадзел гатэльнага бізнэсу

Працяг са старонкі 2.

**«Прэзідэнт-Гатэль»** складана назваць цалкам новай гасцініцай. Гатэль узнікае на месцы савецкай «Кастрычніцкай». Старую гасцініцу зруйнавалі, а на яе месцы будуюць новую, пяцізоркавую. Яна будзе вытрымaная ў тым жа архітэктурным стылі, што і суседнія будынкі, а проста праз дарогу, нагадаем, знаходзіцца рэзідэнцыя кіраўніка дзяржавы.

Грошы на будаўніцтва далі туркі, праўда, толькі ў крэдыт. Згодна з дакументацыяй, «Прэзідэнт-Гатэль» будзе належаць гатэлю «Мінск». Вось толькі не варта забываццa, што сам «Мінск» уваходзіць у бізнэс-імперыю Кіраўніцтва справамі прэзідэнта.

На месцы старога гатэля ўзнікне і **«Гарні»**. Прыватная гасцініца, якая працавала ў губернскім Мінску яшчэ да рэвалюцыі, належала Берку Суціну і называлася ягоным прозвішчам. ААТ «Мінгатэль», які ўзяўся аднаўляць будынак на вуліцы Інтэрнацыянальнай, вырашыў узяць у найменне назву іншага дарэвалюцыйнага гатэля. Трохзоркавы гатэль на 50 месцаў атрымаў адрэстаўраваны дарэвалюцыйны фасад і сучасную «начынку». Большасць працаў ужо зроблена, і гатэль мае адкрыцца ў бліжэйшыя месяцы.

«Гасцініца ў панэльным выкананні», як назваў яе старшыня Мінгарвыканкама Мікалай Ладуцька, з'явіцца ў Курасоўшчыне, каля гарналыжнага комплексу **«Сонечная даліна»**. Падрабязнасці праекта пакуль невядомыя, адзінае, што названа — крыніца фінансавання. Грошы на трохзоркавы мінімалістычны гатэль дасць Мінгарвыканкам.

### Міжнародныя сеткі мясцовага разліву

Наступны блок гатэляў, відаць, таксама будзе пабудаваны, бо праца на іх ідзе даволі актыўна. Гэтыя гасцініцы заключылі дамовы з сусветна вядомымі сеткамі і атрымалі іх назвы.

У самым цэнтры горада паўстане **Kempinski**, які змяняў сваё месцазнаходжанне на мапе Мінска ўжо некалькі разоў. «35-павярховы хмарачос на Кастрычніцкай плошчы» раптоўна «ўсох» да дзесяціпавярховіка каля цырка. Ён увойдзе ў сетку Kempinski, аднак ад швейцарскага брэнда застанецца толькі імя, уласнік будзе іншы. Замоўца будоўлі — СТАА «Эліт Эстэйт». Пад гэтай назвай хаваецца творчы саюз маскоўскага «Сіці Эстэйта» і... «Трайпла» на чале з Юрыем Чыжом.

Гасцініца **Radisson** (4*) ствараецца па тым жа прынцыпе — сусветнае імя і беларускі ўласнік. Нацыянальны Алімпійскі камітэт браў грошы ў «Банка Масква», каб пабудаваць на праспекце Пераможцаў і гатэль, і сваю штаб-кватэру. Улетку 2011 года пасля змены ўласніка банка фінансаванне рэзка скончылася. Будаўніцтва было замарожанае, аднак перад самым Новым годам беларусы ўсё ж переканалі расійскі банк даць абяцаную рэштку грошай. Комплекс будзе складацца з некалькіх будынкаў — гатэль у выглядзе падковы і шарападобная шкляная прыбудова.

Трэці гатэль, які ўвойдзе ў міжнародныя сеткі, — **Hyatt Regency** на Старавіленскім тракце. Ён будзе мець 243 нумары, а для адпачынку пастаяльцаў прадугледжаны басейны і вадаспады ў двары. Вокны будуць выходзіць на Камсамольскае возера. Вось толькі з будаўніцтвам ніхто не спяшаецца, гатэль нават не выйшаў на ўзровень першага паверха.

Кіраўніком ІТАА «Сыравінныя рэсурсы», які будзе валодаць пяцізоркавым гатэлем, з'яўляецца бізнэсоўца Артур Зубарык. Дарэчы, апроч «Хаята», ён валодае гасцініцай «Нёман» у Гродне.

### Планы, планы, планы…

Надзеі на тое, што замежнікі цалкам давядуць справу да ладу, няшмат. Абавязкі перад беларускім урадам слаба стымулююць інвестараў, каб іх няўхільна выконваць.

Сітуацыя з пяцізоркавым **«Пекінам»**, які мусіў будавацца на кітайскія грошы ў Парку 40-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі, пакуль што выглядае заблытанай. Не выключана, што Мінгарвыканкам папросіць кітайцаў абраць сабе іншае месца. (Пра абурэнне жыхароў квартала «НН» пісала ў №1.)

**Каму належаць асноўныя мінскія гатэлі?**

**«Вікторыя»** — КУП «Бізнэс-цэнтр «Сталіца» (камунальная ўласнасць)

**«Еўропа»** — КСУП «Гатэль «Еўропа» (камунальная ўласнасць)

**«Беларусь»**, **«Спадарожнік»** — ААТ «Мінатэль» (асноўны акцыянер — Мінскгармаёмасць)

**«Планета»**, **«Юбілейная»**, **«Мінск»** — Кіраўніцтва справаў прэзідэнта

**Crowne Plaza** — «Мінск Прынцэс Атэль», Турцыя

**«Журавінка»** — «Мінселка», Турцыя



Вось такі гатэль з'явіцца насупраць Кальварыйскіх могілак.

Таксама шукаюцца інвестары на будаўніцтва гатэляў у Чыжоўцы, каля аўтавакзала «Усходні», каля «Мінск-Арэны», на вуліцы Дружнай, на рагу вуліц Кірава і Свярдлова, а таксама на рагу Леніна і таго ж Кірава.

Спрэчкі вядуцца і наконт месца будаўніцтва іранскага хмарачоса **«Персеполіс»**. Пяцізоркавы гатэль будзе ўяўляць сабой дзве вежы па 40 паверхаў, якія маюць паўстаць на вуліцы Няміга. Мінчукі перажываюць, што гмахі будуць тырчаць проста за Домам урада. Відаць, так яно і будзе, але месца меркаванага будаўніцтва адсоўваецца ў бок плошчы Багушэвіча ўжо трэці раз — пратэстуюць жыхары суседніх дамоў.

Распрацаваны ў Вільні праект трохзоркавага гатэля **«Славянскі»** на 120 нумароў спрабуюць рэалізаваць за расійскія грошы. Пляцоўку на вуліцы Нарачанскай у раёне Ржавец атрымаў «Белінтэррасінвест», пазычыўшы грошы ў «Знешэканамбанка».

З той жа краіны — Расіі — прыйдуць грошы і на будаўніцтва чатырохзоркавага гатэля ў пачатку праспекта Дзяржынскага. **«Раснафта»** меркавала ствараць чарговы офісны цэнтр, але ў выніку зрабіла выбар на карысць гасцініцы. На пляцоўцы ўжо вядуцца будаўнічыя працы.

Пра таямнічы гатэль **Mara Hotel** на рагу вуліц Ульянаўская і Свярдлова ўжо было згадана вышэй. Стаў вядомы інвестар — кіпрскі D-Bussiness Solutions Limited, але далей за дэкларацыю аб намерах справа зайсці не паспела.

### Будуйце беларускае

Айчынныя кампаніі таксама не губляюць часу. Тым часам адным з самых актыўных забудоўшчыкаў Мінска стаў... «Футбольны клуб «Сквіч». Спартыўнымі дасягненнямі каманда не вызначаецца, а вось на будаўнічым рынку праяўляе нямала энтузіязму. Спачатку гэтая арганізацыя занялася жылымі дамамі, а цяпер атрымала пляцоўку пад бізнэс-цэнтр і футбольны стадыён, прычым усё гэта ў Фрунзенскім раёне сталіцы. Праект шматфункцыянальнага комплексу **«Сквіч»** з трохзоркавым гатэлем ацэньваецца ў 200 мільёнаў еўра.

Супольнае беларуска-амерыканскае прадпрыемства **«Стромінвест»** сабралася будаваць офісны цэнтр з трохзоркавым гатэлем насупраць Кальварыйскіх могілак. На самі могілкі будуць выходзіць вокны фае, а не нумароў.

Праект комплексу **«Цівалі»**, які мусіў з'явіцца каля Лядовага палаца, знаходзіцца на мяжы замарозкі. ААТ «Фестывальны трэст» хацела будаваць офісны цэнтр і гатэль долевым спосабам, але ахвотных набралася недастаткова.



Гасцініца Radisson Нацыянальнага Алімпійскага камітэта.



Долю ў Kempinski мае Юрый Чыж.

### …І гатэльчык збоку

Нарэшце, у некаторых жылых дамах ці офісных цэнтрах нейкая частка будынка выдзяляецца пад гатэль.

Напрыклад, гэта іранскі шматфункцыянальны комплекс **«Магніт»** на вуліцы Каліноўскага. Кампанія Kayson выказала гатоўнасць выдаткаваць $250 мільёнаў на будынак у форме падковы. Будаўніцтва ледзьледзь пачалося, а імпэту ў іранцаў ужо не відаць.

Уладальнікі першага беларускага хмарачоса **«Ветразь»** таксама падумваюць над тым, каб часткова перапрафіляваць свой жылы дом. Злыя языкі кажуць, што прычынай гэтаму крайняя непапулярнасць 130-метровага дома. Праз дрэнную экалогію каля станцыі метро «Фрунзенская» распрададзена толькі чвэрць кватэраў, таму расійская «Ітэра» шукае іншыя крыніцы акупляльнасці праекта.

...Відаць, праз два гады перад Мінгарвыканкамам паўстане філасофскае пытанне: для каго будаваць новыя гатэлі і забаўляльныя комплексы? Бо ўсё ж ужо будзе створана, прычым з запасам. А пакуль што застаецца сачыць за тым, колькі інвестараў здолее давесці будаўніцтва да лагічнага завяршэння.

**Ягор Марціновіч**

**Фота рэшты праектаў можна пабачыць на nn.by**




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Гатэль «Гарні» адчыніць дзверы ў найбліжэйшы час.

# Дарагія мае масквічы

**Тураапературы і гаспадары аграсядзібаў дзеляцца ўражаннямі ад «расейскіх канікул» у Беларусі.**

Пры канцы снежня Мінспорту і турызму агучыла прагноз: на святкаванне Новага года ў Беларусь чакалася больш за 200 тысяч гасцей з Расіі. Гэта на 50 тысяч больш, чым прыехала турыстаў за ўвесь год з усяго астатняга свету.

Расійскіх турыстаў і сапраўды было шмат. Іх прысутнасць адчувалася паўсюль — ад Мінска да райцэнтраў. Многія месцы адпачынку былі забраніраваныя задоўга да святаў. Аднак, як мяркуюць тураператары, лічба ў 200 тысяч — значна завышаная.

### Мінск—Нясвіж—Дудуткі

«Летась мы прынялі каля 1800 гасцей з Расіі, сёлета ўжо 3000», — расказвае дырэктар туркампаніі «Віаполь» Галіна Патаева. Па яе словах, колькасць расійскіх турыстаў сапраўды расце, але 200 тысяч — лічба проста нерэальная. Найперш таму, што такую колькасць гасцей на сёння няма дзе прыняць.

«У Брэсце, напрыклад, усяго 3-4 гатэлі, куды можна пасяліць гасцей», — кажа Галіна Рамуальдаўна.

На калядныя вакацыі туркампанія «Віаполь» прапанавала экскурсію па Мінску, вандроўкі ў Мір і Нясвіж, наведванне Дудутак. А таксама паездкі ў Гродна, Ліду, Брэст (з наведваннем Белавежскай пушчы), Лагойск.

Маршрут Мінск—Мір—Нясвіж—Дудуткі, па словах Галіны Патаевай, найбольш папулярны ў расейцаў.

**Куды найперш едуць расейцы:**

- Мінск—Мір—Нясвіж
- Белавежская пушча—Брэст
- Мінск—Дудуткі
- Мінск—Заслаўе
- Мінск—Лагойск—Хатынь

### Адпачынак з нацыянальным ухілам

Гаспадар аграсядзібы «Тры скрыпкі» ў Мядзельскім раёне Антон Скрыпка таксама адзначае рост колькасці расійскіх турыстаў. «У разы больш сталі ездзіць, пачынаючы з гэтага лета. А на зімовыя святы пачалі замаўляць месцы з верасня». Сёлета попыт яўна апярэдзіў прапанову. Што ж прыцягвае сюды масквічоў і піцерцаў?

> **Беларускія цішыня і спакой расейцам па кішэні »**

«Людзі з мегаполісаў шукаюць тут цішыню і спакой. І ім гэта па кішэні», — кажа Антон. Расейцам падабаецца гасціннасць беларусаў, мясцовая прырода. І яшчэ адна важная акалічнасць: «Некаторыя госці кажуць, што ў Расіі таксама можна знайсці вясковы каларыт, але даехаць у іхнія вёскі рэдка калі магчыма. А ў Беларусі добрыя дарогі паўсюль».

Гаспадар падкрэслівае, што кожнаму госцю наперад тлумачыць, што адпачынак у іх з нацыянальным каларытам. Тут кормяць стравамі, згатаванымі па рэцэптах навакольных вёсак.


BELARUS.BY

Пры жаданні гасцям зладзяць майстар-клас па выпечцы хатняга хлеба. Да іх паслугаў лазня: хочаш — «па-беламу», а хочаш — і «па-чорнаму».

### Не Мінскам адзіным

У навагоднія дні расейскія турысты былі заўважаныя не толькі на папулярным маршруце Мінск—Нясвіж.

У невялічкім Белаазёрску, што за 250 км ад сталіцы, расейцы аблюбавалі аздараўленчы цэнтр «Энергія», які належыць РУП «Брэстэнерга». Пачынаючы з мінулага лета, сюды стала праблематычна патрапіць мясцовым. Госці з Расіі завіталі сюды і на калядныя вакацыі. Выбар на карысць «Энергіі» не здзіўляе: тут і прыстойны спектр працэдур, і добра арганізаваны вольны час. Для ахвочых ладзяцца экскурсіі ад Белавежскай пушчы да Нясвіжа.

Мясцовыя прадпрымальнікі расказваюць, што расейцы ахвотна набывалі ў іх вопратку, у першую чаргу — беларускай вытворчасці.

### Лыжка дзёгцю

Верагодна, такая колькасць замежных турыстаў не магла не паўплываць на статыстыку здарэнняў. Для кагосьці з расейцаў вакацыі ў Беларусі скончыліся няўдачай, а для кагосьці і трагедыяй. У большасці выпадкаў прычынай няшчасця былі аўтааварыі. Найбольшы рэзананс выклікала жудаснае ДТЗ 7 студзеня на праспекце Незалежнасці ў Мінску, у якой загінулі маладыя расійскія афіцэры з Омска.

**Што прываблівае расейцаў у нас:**

- беларуская гасцінасць,
- адносная таннасць мясцовага адпачынку,
- невялікія адлегласці і добрыя дарогі,
- нацыянальны каларыт і прыгожая прырода.

**Сямён Печанко**

# «Інфармацыйныя ўказальнікі абавязкова будуць па-беларуску!»

**Ужо сёлета ў Мінску ўсталююць дапаможныя шыльды і стрэлкі-ўказальнікі.**

Для гэтага вызначаныя 44 турыстычныя месцы. Гэта паркі імя Максіма Горкага і Чалюскінцаў, раён Опернага тэатра, Няміга і іншыя аб'екты. Але на якой мове будуць надрукаваныя ўказальнікі? Агенцтва «Мінск-Навіны» пашырыла звесткі, што працоўнымі мовамі абраныя расійская і англійская. Паколькі канчатковага рашэння не было, у інтэрнэце ўзнік заклік ліставаць у інфармацыйны-турыстычны цэнтр «Мінск».

Як высветлілася, беларуская мова ва ўказальніках усё ж з'явіцца.

«Інфармацыя, якая была выкладзеная ў інтэрнэце, некарэктная. Ад пачатку праекта было вырашана, што ўказальнікі будуць зробленыя па-беларуску і па-англійску. Прычым галоўная мова — беларуская. Гэта адназначна», — кажа дырэктарка інфармацыйна-турыстычнага цэнтра «Мінск» Алена Пліс.

«Нам прыйшло каля 40 лістоў у інтэрнэце, адзін за адным прыходзяць заказныя лісты і раздаюцца званкі, — працягвае яна. — Але беларуская мова будзе абавязкова! Калі з'явіцца патрэба ў тым, каб размясціць інфармацыю і па-расійску, то гэта будзе трэцяя мова».

З арыентацыяй у горадзе турыстам павінен дапамагчы і мабільны даведнік па Мінску. Пакуль у яго ўключаны толькі гістарычны цэнтр, праграма дапрацоўваецца. З часам яе можна будзе запампаваць у інтэрнэце і загрузіць у тэлефон.

**Ягор Марціновіч**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Пад гатэль «Пекін» ссякуць 244 дрэвы

**Але на іх месца абяцаюць пасадзіць яшчэ больш.**

Будаўніцтва гатэля «Пекін» у мінскім Парку 40-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі, якое выклікала абурэнне ў мясцовых жыхароў (глядзі мінулы нумар «НН»), прыпыняцца не будзе. Гарадскія ўлады абяцаюць добраўпарадкаванне парку вакол гатэля, а таксама азеляненне мясцовых двароў.


**Такім бачаць гатэль «Пекін» яго стваральнікі.**

У часе прэс-канферэнцыі, якую зладзіў гарвыканкам, высветлілася, што юрыдычна ніякага парку Кастрычніцкай рэвалюцыі не існуе: аформлены ён ніколі не быў, а ў дакументах узгадваецца роўна адзін раз — на пачатку 80-х, і пад іншай назвай — «40-годдзя БССР».

Тым не менш, праекта будучага гатэля ў Мінпрыроды не бачылі, як і схемаў забудовы. Вядома, што гэта будзе «паркавы гатэль», а кітайскі бок абяцае азеляніць яго, бо гэта аснова праекта. Выканкам плануе пашырэнне паркавай зоны, у тым ліку на іншы бок дарогі, а таксама добраўпарадкаванне прылеглых двароў. Замест 300 дрэваў, якія дакладна будуць спілаваныя пад гатэль, будзе пасаджана 500.

Кіраўніцтва Ленінскага раёна сцвярджае, што першапачаткова мясцовае насельніцтва было за тое, каб парк быў добраўпарадкаваны.

Тэрыторыя парку па розных ацэнках складае ад 6 да 13 гектараў, гатэль разам з комплексам — 3 га. Што тычыцца карпусоў завода імя Кірава, то іх перанясуць у іншую частку горада.

Цяпер высечка дрэваў прыпыненая, але паўплываць на далейшы лёс парку не атрымаецца. З 300 дрэваў толькі 56 будуць перасаджаныя, астатнія, паводле галоўнага архітэктара Мінска Аляксандра Пятрова, перасадзіць немагчыма праз узрост дрэваў. «Гэта была вельмі недагледжаная частка горада, туды і днём было заходзіць страшнавата. Як у парк туды мала хто хадзіў, нават далёка не ўсе пра яго ведалі», — тлумачыць Пятроў.

«Пекін» будзе мець розную паверхавасць — ад 1 да 7 паверхаў і па ідэі кітайскіх распрацоўшчыкаў мусіць «распускацца» ў акаляючай зеляніне. Падрабязны план гатэля-саду пакуль невядомы.

**Юрась Ускоў**

# Так выглядае чалавек пасля месяца галадоўкі



СЯРГЕЙ СЕРАБРО

Палітвязня Каваленку **ізалявалі ў карцары.**

Віцебскі сябра КХП-БНФ Сяргей Каваленка трымае галадоўку з 19 снежня. Гэта ён робіць у знак пратэсту супраць крымінальнай справы, паводле якой яго трымаюць пад вартай. Сяргея вінавацяць паводле артыкула 415 КК (ухіленне ад адбыцця пакарання). І яму пагражае да трох гадоў пазбаўлення волі.

Каваленка быў асуджаны на тры гады абмежавання свабоды без накіравання ў месца адбыцця пакарання пасля вывешвання бел-чырвона-белага сцяга на навагодняй ёлцы 7 студзеня 2010 у Віцебску.

Маці актывіста паведаміла, што сын знаходзіцца ў ізалятары. Але адміністрацыя следчага ізалятара адмовілася назваць прычыну змяшчэння ў ШІЗА. Жонцы Сяргея адмовілі ў спатканні з мужам.

Падставай для завядзення крымінальнай справы супраць Каваленкі сталі нібыта правапарушэнні з яго боку. Сяргея прызналі вінаватым у лаянцы, несанкцыянаваным пікетаванні, за што актывіст адсядзеў адміністрацыйныя арышты. Яго вінавацяць і ў вывешванні бел-чырвона-белага сцяга на даху крамы «5 элемент» у Віцебску. Сваю віну актывіст па ўсіх эпізодах адмаўляе.

**Кастусь Матушыч**

Пасля арышту Сяргея яго жонка засталася з двума дзецьмі без сродкаў для існавання. У сацсетках разгарнулі кампанію па дапамозе сям'і Каваленкі. Пералічыць грошы можна на рахунак: **Беларусбанк 01073849 аддзяленне 201/85 г. Віцебска, Каваленка Алене Юр'еўне**.

## Пра што не можа сказаць Саннікаў?

Экс-кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава **не бачылі два месяцы.**

Адвакаты безвынікова спрабуюць сустрэцца з падабаронным трэці месяц. На ўсё атрымліваюць адказ: «Не палажана». Яны нават падалі пазоў у Віцебскі суд на дзеянні начальніка калоніі «Віцьба-3», які не дазваляе спатканні. А з Дэпартамента выканання пакаранняў МУС адказалі, што, па іх звестках, у юрыдычнай дапамозе асуджаны не мае патрэбы.

Перад Новым годам ад Андрэя Саннікава прыйшоў кароткі ліст да жонкі Ірыны Халіп: «Я спрабую табе і іншым паведаміць аб тым, што са мной адбываецца, але лісты не праходзяць. Мабыць, пошта ў твой бок наогул перастала працаваць».

Пра што не можа сказаць экс-кандыдат у прэзідэнты? Ірына Халіп выказала меркаванне, што мужа могуць катаваць. Альбо гэта можа быць цяжкая хвароба. І таму Саннікава ізалявалі. Аб прычынах можна толькі здагадвацца. Але чым менш інфармацыі, тым больш непрыемныя думкі наведваюць.

На мінулым тыдні Ірына Халіп атрымала пісьмо ад мужа. Але гэта быў дзіўны-дзіўны ліст. У ім — ні слова пра самога палітыка, пра яго здароўе. Затое на дзвюх старонках даюцца парады, як даглядаць хатнія кветкі. Ірына патлумачыла, што ў іх кватэры ёсць некалькі вазонаў. Жанчына пацвердзіла мужаў почырк. А такі допіс патлумачыла тым, што палітыку, магчыма, забаронена пісаць пра сябе.

### Саннікаў піша, як даглядаць хатнія кветкі

Падчас прэс-канферэнцыі Аляксандра Лукашэнкі 23 снежня «НН» запыталася, што той адчуе, калі яго палітычныя апаненты загінуць за кратамі. Лукашэнка нічога не адказаў па сутнасці. Але даў указанне старшыні Савета бяспекі Леаніду Мальцаву: «Знайдзіце нармальную калонію, і няхай Саннікаў там жыве спакойна». Праўда, пра магчымы новы перавод палітыка таксама няма ніякай інфармацыі.

Андрэй Саннікаў знаходзіцца за кратамі больш за год. А за восем месяцаў пасля вынясення прысуду палітыку тройчы мянялі калоніі. Спачатку ён знаходзіўся ў Наваполацку, затым у Бабруйску, цяпер — у Віцебску. Пераводы адбываюцца не ад добрага жыцця. Калі падчас першага чыноўнікі ад пенітэнцыярнай сістэмы заявілі, што Саннікава пераводзяць з-за дрэннай экалагічнай сітуацыі ў Наваполацку, то прычынай этапавання ў калонію «Віцьба-3» назвалі пагрозу жыццю палітыка. Родныя Саннікава лічаць, што пастаянны ціск звязаны з тым, што ён адмаўляецца падпісаць прашэнне аб памілаванні.



**Саннікава за кратамі паказалі ў гнюсным сюжэце па беларускім тэлебачанні.**

**КМ**

## Дзядок чакае падвышэння базавай велічыні

Каб мець магчымасць больш **набываць у калоніі.**

Як паведаміла жонка Мікалая Дзядка Валерыя, на канец лютага ў іх запланавана доўгатэрміновае спатканне. Жанчына ў гэтым бачыць магчымасць не толькі ўбачыць мужа, але і прывезці яму перадачу. Ад жніўня Мікалай пазбаўлены такой магчымасці за парушэнне рэжыму.

Валерыя паведаміла, што палітвязень спрабаваў трапіць на працу ў бібліятэку. Але безвынікова. Родныя Мікалая чакаюць павелічэння базавай велічыні ад 35 да 100 тысяч рублёў. Бо менавіта такой сумай ён абмежаваны ў магчымасці набываць тавар у калоніі.

У Мікалая Дзядка надыходзіць тэрмін замены пакарання больш мяккім. На словах Валерыі, муж ужо не можа прэтэндаваць на гэта, бо мае мноства парушэнняў. Жанчына таксама паведаміла, што тэрмін замены пакарання надыходзіць і ў Аляксандра Фанрцкевіча, асуджанага па адной справе з Дзядком. Аляксандр у лістах адзначае, што, хаця ў яго і няма парушэнняў, камісію ён таксама не спадзяецца прайсці. Упэўнены, што ўсе рашэнні адносна яго будуць прымацца не ў калоніі, а «вышэй».

Мікалай Дзядок і Аляксандр Францкевіч асуджаны па справе мінскіх анархістаў на 4,5 і 3 гады адпаведна. Іх абвінавацілі ў арганізацыі шэрагу акцый у 2009—2010: антымілітарысцкага шэсця пад Мінабароны, нападзе на казіно «Шангры Ла», падпале дзвярэй філіяла «Беларусбанка», нападзе на пасольства Расіі ў Мінску, нападзе на ізалятар на Акрэсціна. Вінаватымі хлопцы сябе не прызналі.



**На лаве падсудных. Злева направа: Мікалай Дзядок, Аляксандр Францкевіч і Ігар Аліневіч.**

**Сяргей Макарэвіч**

## Сціcла

### Статкевіча перавялі ў Магілёўскую турму

12 студзеня палітыка асудзілі на больш жорсткае пакаранне — тры гады ён правядзе ў турэмным рэжыме. Такое рашэнне прыняў суддзя Віталь Волкаў. Прычынай стала афіцыйнае прадстаўленне адміністрацыі шклоўскай калоніі. У ім сказана, што палітык «не стаў на шлях выпраўлення», «да ўмоўна-датэрміновага вызвалення не імкнецца». Гэта вынікае з яго ранейшага пакарання карцарам. У ШІЗА палітыка змяшчалі на фармальных падставах: у Статкевіча адсутнічала бірка з нумарам зняволенага на адзенні, а ў спісе асабістых рэчаў ён не ўказаў насоўкі. Сапраўднай жа прычынай жонка палітыка Марына Адамовіч лічыць прынцыповую пазіцыю мужа: ён адмаўляецца пісаць прашэнне аб памілаванні. Турэмны рэжым прадугледжвае шэраг абмежаванняў. Галоўныя заключаюцца ў меншай колькасці спатканняў і перадач. Асуджаныя знаходзяцца не ў атрадах, а ў камерах па 3-4 чалавекі.

### Маладафронтаўца адлічылі з ВНУ

Уладзімір Яроменак адлічаны з Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі. Падставай стаў яго адміністрацыйны арышт у верасні. Малады чалавек за спробу вывесіць у Мінску бел-чырвона-белы сцяг правёў за кратамі дванаццаць сутак. Адміністрацыя ВНУ папярэджвала Уладзіміра, які вучыўся на трэцім курсе факультэта камп'ютарнага праектавання, што чарговае затрыманне альбо арышт могуць паслужыць прычынай для адлічэння. Летась Яроменак быў асуджаны на тры гады калоніі ўзмоцненага рэжыму за ўдзел у акцыі пратэсту 19 снежня 2010. Вызвалены датэрмінова.

### Баразенка галадае

Тэлеаператара Аляксандра Баразенку затрымалі, калі ён здымкаў адзіночны пікет Мікіты Каваленкі. Апошні разгарнуў партрэты палітвязняў і бел-чырвона-белы сцяг каля будынка КДБ у Мінску. Абодвух маладых людзей абвінавацілі ў артыкуле 23.34 КоАП (парушэнне парадку арганізацыі альбо правядзення масавага мерапрыемства альбо пікетавання). Баразенку асудзілі на 11 сутак адміністрацыйнага арышту, Каваленку — на 15. Выходзяць на свабоду яны адпаведна 19 і 23 студзеня. У знак пратэсту супраць арышту Баразенка трымае галадоўку.

**КМ**

# Глеб: «Мае найлепшыя гады мінулі»

**Найлепшы беларускі футбаліст** апошняга дзесяцігоддзя зноў без каманды.



Пачатак сезона Аляксандр Глеб быў у нямецкім «Вольфсбургу». За «ваўкоў» наш суайчыннік правёў чатыры гульні, дзе забіў адзін гол. Тым не менш, кандыцыі футбаліста не задаволілі галоўнага трэнера клуба Фелікса Магата.

Цяпер у паслугах гульца зацікаўленыя маскоўскі «Лакаматыў» і стамбульскі «Галатасарай». Ёсць верагоднасць пераходу ў лонданскі «Куінз Парк Рэйнджэрс». Праўда, ніякай канкрэтыкі пакуль няма.

Кар'ера Глеба імкліва пайшла ўніз пасля пераходу з англійскага «Арсенала» ў «Барселону». Калі ў скла-дзе «пушкароў» беларус быў лідарам, то ў каталонскім клубе ён згубіўся.

Пасля гэтага пачаліся пастаянныя арэнды: «Штутгарт», «Бірмінгем», «Вольфсбург». Глеб усё яшчэ належыць самай моцнай камандзе свету «Барселоне».

«Калі шчыра, то найлепшыя гады маёй кар'еры ўжо мінулі», — прызнаўся Глеб у інтэрв'ю нямецкай газеце Stuttgarter Zeitung.

**Зміцер Панкавец**

**Свет**

## «Я забіў мільёны ўкраінцаў! А за што табе паставяць помнік?»




У Запарожжы з'яўляюцца **антысталінскія білборды**.

Ініцыятыва ўсталявання білбордаў прыйшла з запарожскай газеты «Субота +». Нагода — помнік Сталіну, пастаўлены ля абкаму КПУ. На білбордзе была змешчаная выява Гітлера, які звяртаецца да запарожцаў: «Чым я горшы за Сталіна? Стаўце і мне помнік!»

«Помнік Сталіну — гэта плявок у твар усім украінцам. Гэты білборд нагадвае жыхарам Запарожжа, што Сталін — ані не меншы злачынца, чым Гітлер», — казаў Багдан Васіленка, галоўны рэдактар газеты «Субота +».

Білборд з фюрэрам правісеў каля 4 гадзін, пасля чаго яго знялі невядомыя.

12 студзеня ў Запарожжы з'явіўся новы білборд. Гэтым разам з выявай самога Сталіна. Вялізны плакат 3х6 метраў абвяшчае: «Я забіў мільёны ўкраінцаў! А за што табе паставяць помнік?»

**Лявон Максюта**

# Адрадзілі стары рэцэпт беларускага піва

«Аліварыя» пачала выпуск піва **«Граф Чапскі»**.

Піва варыцца па старым рэцэпце — з дадаткам ядлоўцу. Гатунак назвы ў гонар аднаго з ранейшых уладальнікаў завода, прадпрымальніка, філантропа, графа Карла Гутэн-Чапскага.

«Ідэю адрадзіць легендарнага «Графа Чапскага» нам падказалі спажыўцы. У свой час піва карысталася вялікай папулярнасцю. Гэтаму гатунку пашанцавала стаць часткай эпохі. Калі «Граф Чапскі» паўторыць свой поспех, то кампанія працягне яго выпуск», — кажуць на бровары.

**Сямен Печанко**




**Этыкетку гэтым разам вырабілі па-расейску, хоць некалі была па-беларуску.**




# «Танец дабра» ў мінскім метро

Маладыя людзі **аб'ехалі ўсе станцыі** мінскага метрапалітэна і на кожнай танцавалі адзін і той жа танец.

«Мы з сябрамі знялі відэа. Сэнс відэа ў тым, што мы аб'ехалі ўсе станцыі мінскага метрапалітэна і на кожнай танцавалі адзін і той жа танец, танец дабра і радасці.

Падобныя рэчы ўжо рабілі ў Маскве, Піцеры, Кіеве і інш. (у Маскве танцаваў знакаміты расійскі блогер Сэм Нікель). Мы падумалі, чым Мінск горшы, і заснялі гэта відэа», — кажуць аўтары роліка.

Відэа выклікала фурор у інтэрнэце.

**АГ**



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Наменклатурнае паліто

«Ну, усё, — з усмешкай прамовіла жонка, — ты цяпер наменклатура. Трэба шыць рацінавае паліто...»

Такім нібыта жартам адзначыўся пачатак маёй працы ўласным карэспандэнтам усесаюзнай па тым часе газеты «Труд». І то праўда: усе ўласныя карэспандэнты маскоўскіх газет аўтаматычна траплялі ў наменклатуру ЦК КПБ...

Жарт жартам, але жонка ведала, што гаварыла. Па рацінавым паліто ды андатравай шапцы наменклатура пазнавала «свайго».

Але дзе прыдбаць гэты кляты рацін?

Англійскі рацін захоўваўся чамусьці ў Дзяржынскім КБА, там жа працаваў і кравец, які шыў з яго паліто для наменклатуры...

І вось першы раз у новым паліто едзем з маскоўскім калегам на Палессе праз славуты горад Бабруйск, травім пад чарачку розныя байкі ды паказкі. Тут якраз і прыгадаўся стары анекдот, як сустракаюцца два бабруйскія яўрэі і адзін пытае ў другога, дзе ён шыў такі добры касцюм. «У Парыжы», — адказвае другі. «А ці далёка ён, гэты Парыж?» — «За 3 тысячы кіламетраў». — «Во дзіва! Такая глуш, і так добра шыюць!»...

Парагаталі, а праз колькі хвілін размінаклі ногі ля нейкай крамы. І раптам аднекуль збоку, ледзь перастаўляючы ногі, наблізіўся дзядок і, асцярожна дакрануўшыся да гузіка, спытаў: «І дзе вы шылі такое добрае паліто?» Мы з калегам аж прыселі ад рогату...

Дома жонка перавесіла паліто з вешалкі на плечыкі ў шафу: «Так лепш захаваецца...»

...Амаль праз 40 гадоў былы маскоўскі калега, пабываўшы на аўто ў Мінску, з нейкім зайздросным расчараваннем падзяліўся, мабыць, самым моцным сваім уражаннем: «Ды ў вас тут не жыццё, а казка! Вуліцы пера-

## Як бы разам з наменклатурнай уласнасцю не згубіць краіну

крываюцца дзеля ўсяго аднаго чалавека, а ў нас...». І ён пачаў загінаць пальцы, намагаючыся падлічыць, дзеля каго перакрываюцца вуліцы ў Маскве. А потым запытаўся: «Што, у вас тут зусім няма наменклатуры?»...

Я разгубіўся, не ведаючы, што адказаць. Сапраўды, ці ёсць у нас наменклатура? На першы погляд, ёсць, і немалая па колькасці, калі ўявіць сабе ўсю вертыкаль. Але ж якая гэта наменклатура, калі дзеля яе, згодна з маскоўскім разуменнем, не перакрываюцца вуліцы?!

Вось раней, памятаю, адзін правінцыйны партыйны ўладар не тое што вуліцу, а ўсё галоўнае ў райцэнтры скрыжаванне перакрыў. Не спадабалася яму, як даішнік рэгулюе рух, затрымлівае праезд начальніцкай «Волгі». Раз, другі... А на трэці адабраў у рэгуліроўшчыка жазло, сарваў фуражку і, начапіўшы яе на запацелы лоб, узняў жазло ўгору...

Трэба заўважыць, што наступствы былі для яго самыя спрыяльныя: праз выцвярэзнік у прафсаюзы — было такое схоўішча ад народа. Але ж з наменклатуры не выпаў. Тагачасная наменклатура сваіх не здавала. У адрозненне ад сусветнапралетарскай, існавала сапраўдная наменклатурная еднасць...

А сёння?

Ну дзе вы знойдзеце сёння такога адчайнага наменклатуршчыка, які адважыўся б адабраць «жазло» ў галоўнага «рэгуліроўшчыка» краіны?

Нават калі і знойдзеце, хто яго падтрымае?

Кволыя спробы падчас рэферэндуму 1996 і выбараў 2006 яскрава паказалі, як раструшчылася былая наменклатурная еднасць. У адрозненне ад Расіі, ад Масквы, дзе, як сцвярджаюць некаторыя даследчыкі, менавіта яна з'явілася падставай для канчатковай і незваротнай перамогі наменклатурна-капіталістычнай рэвалюцыі. Рэвалюцыі, што падзяліла былую і народжаную наменклатуру на некалькі дзяржалігрархічных груповак, якія чамусьці завуцца партыямі. Нават тузаюць адзін аднаго ў барацьбе за ўласнасць і ўладу. Можа, і датузаюцца калі-небудзь да «честных выборов»...

Карацей кажучы, «такая глуш», а ўсё ж нешта шыюць...

У нашай жа нацыянальнай, так бы мовіць, наменклатуры, акрамя «цэнтра Еўропы», хутка нічога не застанецца: ні ўласнасці, ні ўлады. Нават таго, што скралі — паціху ці з дазволу «моцнай рукі». Рукі, якая ўсё часцей шые для яе не «паліто», а турэмную робу...

Але спачування няма і наўрад ці будзе. Бо пачуццё ўласнай годнасці ў беларускай наменклатуры ніколі не распаўсюджвалася далей рацінавага паліто («мэрса», «лексуса», катэджа за глухім плотам — з папраўкай на гістарычны працэс).

Адно хвалюе: як бы разам з наменклатурнай уласнасцю не згубіць краіну.

...А тое паліто, дарэчы, так і правісела на плечыках у шафе больш за 30 гадоў, пакуль цешча не аднесла яго ў камісіёнку.

Ну, не любіў я насіць паліто. Ні рацінавых, ды ніякіх іншых.

# Самыя сэксуальныя жанчыны Беларусі

Вядомыя беларускія мужчыны **разыходзяцца ў вызначэнні** сэкс-сімвала краіны.

Аляксандр Кулінковіч (гурт «Нейра Дзюбель») лічыць, што беларускі ў прынцыпе самыя прыгожыя ў свеце. І гэта аб'ектыўная рэальнасць. Таму Кулінковіч назваў ажно трох жанчын: вядучая Аксана Вечар, спявачка Гюнэш і (хто бы вы думалі?) старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына! «Калі такую бачыш — душа радуецца!» — кажа музыка.

### №1 сярод жанчын

«Сонца беларускай эстрады» Аляксандр Саладуха самай сэксуальнай жанчынай назваў тэнісістку Вікторыю Азаранку. «Для мяне яна на сённяшні дзень — №1 сярод жанчын».



Гюнэш мае ўсе шанцы паехаць на «Еўрабачанне».

### «Гэта ж проста эльф!»

Можна спрачацца наконт стаўлення да моды і асабістага выгляду эканаміста і фінансавага аналітыка Сяргея Чалага. Але ў працаўніцах моднай індустрыі Чалы ведае толк.

Самай сэксуальнай Чалы назваў мадэльку Таццяну Дзягілеву. На пытанне «чаму», патлумачыў ёмка: «Гэта ж проста эльф!»

У свае 20 гадоў Таня, ураджэнка Віцебска, паспела папрацаваць на паказах вядомых мадэльераў. Яна рэкламуе Хуга Боса, Крыстыяна Дыёра ды Іў Сэн-Ларана з Полем Гацье разам узятых. У мінулым годзе часопіс Esquire прызнаў яе найсэксуальнейшай ураджэнкай Беларусі.

### Яна закіне

Хто-хто, а «свецкі» рэпарцёр Міця Тарпішчаў ведае беларускіх «селебрыціс» зсярэдзіны і не баіцца задаваць ім самыя нязручныя пытанні. Аднак сярод зорак эстрады сэкс-сімвала ён не знайшоў.

«Нашы афіцыйныя «свецкія ільвіцы» і гераіні вокладак мяне не чапляюць. Усе яны быццам пакрытыя плёнкай, а зверху прыцярушаныя шэранню напалову з попелам».

А самай сэксуальнай беларускай Тарпішчаў прызнаў баскетбалістку Алену Леўчанку. А таксама — кожную прадаўшчыцу ці праваднiцу, якая, замест таго каб традыцыйна нахаміць, усміхнецца і паважліва паставіцца да яго просьбы.

«Мяне ўзбуджае перш за ўсё розум, здольнасць лагічна мысліць і апантанасць любімай справай, — прызнаўся Міця. — Лена, ай лав ю!»



«Гэта ж проста эльф,» — Сяргей Чалы пра Таццяну Дзягілеву.



«Калі такую бачыш — душа радуецца!»

Алена Леўчанка: гэтая закіне!

### Афанасьева такая цнатліва-сэксуальная

Стыліст, кіраўнік Дома прыгажосці «Мусон» Аляксандр Кірынюк самай сэксуальнай лічыць спявачку Іну Афанасьеву. «Яна заўсёды добра выглядае, заўсёды абсалютна розная — у стылі, прычосцы, макіяжы. Пры гэтым у ёй няма пахабства».

Стыліст прызнае, што ёсць нашмат больш прыгожыя мадэлі ці вядучыя. Але вось яны чамусьці — пахабныя. А Іна Афанасьева цнатліва-сэксуальная (парадаксальныя беларускія жанчыны!). Па ўменні падаць сябе Аляксандр параўнаў спявачку з Сафі Ларэн.

### Люсю ведаюць нават тыя, хто больш нікога не ведае

А вось бізнэсоўца, дырэктара ўласнага інвестыцыйна-кансалтынгавага агенцтва і, дарэчы, халасцяка Міхаіла Бараздзіна наша пытанне загнала ў тупік.

«Замбаскрыню» я не гляджу і ўвогуле цікаўлюся толькі тымі жанчынамі, якіх можна «памацаць», — кажа Міхаіл.

Таму вядомых беларускіх жанчын амаль не ведае. Але адну ўсё ж назваў: гэта вядучая Люся Лушчык.

З такім меркаваннем не пагаджаецца аўтар «ШОСа» блогер Яўген Ліпковіч. «Калі Люся Лушчык адкрывае рот, гэта выклікае асацыяцыі выключна з надутай гумовай лялькай. З Люсі выходзяць словы без колеру, паху і сэнсу».

А самай сэксуальнай жанчынай, паводле Ліпковіча, з'яўляецца Ганна Чыстасердава, арт-дырэктарка галерэі «Ў». Ганна ўмее адрозніць «сэкс» і «сэксуальнасць». Яна валодае ўсім, што робіць жанчыну прывабнай: энергіяй, інтэлектам, бездакорным густам і жаноцкасцю, кажа Ліпковіч.

**Аксана Рудовіч**



Інтэлектуалка па імені Ганна.



Люсю Лушчык ведаюць нават тыя, хто нікога не ведае.



Панкі за Ярмошыну.

# Непаўналетняя сышла з жыцця праз год пасля смерці хлапца

Перад смерцю яна **наведала яго магілу** ў Будславе.

Здарэнне адбылося 5 студзеня ў мястэчку Будслаў на Мядзельшчыне. 17-гадовая навучэнка Мала-дзечанскага каледжа прыехала ў госці да цёткі. Знайшлі дзяўчыну ўвечары ў пуні. Такім жа чынам рахункі з жыццём год назад, 6 студзеня 2011, звёў і яе малады чалавек.

**Скакала пад цягнік, але засталася жывая**

10 студзеня ў мінскім метро на станцыі «Няміга» дзяўчына скокнула на рэйкі. Дзяжурная па станцыі, убачыўшы гэта на маніторы відэаназірання, адключыла напругу. Відавочцы паралі дзяўчыне легчы ў латок паміж рэйкамі, бо ўжо прыбываў цягнік. Дзякуючы парадзе яна выжыла. У мінскім метрапалітэне адзначылі, што гэта была спроба суіцыду.

Незадоўга да самагубства Яня наведвала яго магілу. У яе кішэні знайшлі запіску. У ёй дзяўчына просіць нікога не дакараць у смерці.

Як паведамілі ў пракуратуры Мядзела, Яня па месцы жыхарства і вучобы характарызавалася станоўча. На ўліку ў нарколага ці псіхіятра не стаяла. Спробаў скончыць жыццё самагубствам раней не было, і пра такую магчымасць не выказвалася. Яна пайшла з жыцця за тры тыдні да паўналецця.

Паходзіла яна з Мядзела з няпоўнай сям'і. Навучалася на 2-м курсе Маладзечанскага гандлёва-эканамічнага каледжа. Яе сяброўкі таксама гавораць пра яе толькі станоўчае і называюць нечаканасцю самагубства.

Гэта быў апошні запіс. У пракуратуры Мядзела звязваюць суіцыд дзяўчыны з леташнім самагубствам яе маладога чалавека.

Калі апаноўваюць змрочныя думкі, кажуць псіхолагі, заўжды трэба памятаць: выйсце ёсць з самай складанай сітуацыі.

**Сяргей Макарэвіч**



**Тэлефоны службы экстранай псіхалагічнай дапамогі**

Кругласутачная служба экстранай псіхалагічнай дапамогі «Тэлефон даверу»: 8 (017) 202-04-01.

Рэспубліканская тэлефонная «гарачая лінія» па аказанні псіхалагічнай дапамогі непаўналетнім, што трапілі ў крызісную сітуацыю: 8-801-100-16-11.

# Тры аўтобусы з пасажырамі перавярнуліся за выходныя

Прычыны — неспрыяльнае **надвор'е і перавышэнне хуткасці.**

Тры сур'ёзныя аварыі з удзелам двух пасажырскіх і аднаго турыстычнага аўтобуса здарыліся ў краіне на выходныя. Больш за два дзясяткі чалавек былі шпіталізаваныя.

**Спяшаўся ў чарговы рэйс**

Самая сур'ёзная па колькасці пацярпелых аварыя адбылася 14 студзеня на аўтадарозе Р-58 Мінск—Мядзел каля вёскі Лускава Мінскага раёна.

У аварыю трапіў аўтобус МАЗ, арандаваны адным са сталічных прадпрыемстваў для турыстычнай вандроўкі ў Паставы. Усяго ў ім было 44 чалавекі: 42 пасажыры, кіроўца і экскурсавод.



Як паведаміў парталу Auto.onliner.by адзін з пасажыраў, кіроўца аўтобуса спяшаўся, бо неўзабаве мусіў адпраўляцца ў рэйс у Рыгу. Ён ехаў з хуткасцю каля 80 км/г, і на адным са скрыжаванняў аўтобус занесла. Ён зваліўся ў кювет.

У выніку аварыі з траўмамі лёгкай і сярэдняй ступені цяжкасці былі шпіталізаваныя 19 чалавек, у тым ліку трое дзяцей, паведаміла Мінахова здароўя. Расследаванне прычыны і акалічнасцяў ДТЗ праводзіць ДАІ Мінскага раёна.

**Не даехалі 50 км**

Пасажырскі аўтобус «МАЗ-256170» ехаў у Ліду з Брэста. За рулём быў кіроўца з 39-гадовым стажам. Да месца прызначэння аўтобус не даехаў 50 кіламетраў. На слізкім месцы аўтобус вынесла ў левы кювет і ён перакуліўся. Пасажыры расказалі пазней, што, нягледзячы на снегапад, кіроўца гнаў на вялікай хуткасці. Мала таго, непасрэдна перад аварыяй, перад закругленнем дарогі, ён спачатку абагнаў легкавік, а за ім фуру. Акурат у момант вяртання на сваю паласу аўтобус і занесла. Пацярпелі дзве пасажыркі.

Мікрааўтобус «Люблін-35141» смаргонскага аўтапарка выправіўся ў рэйс у моцны снег. На 201-м кіламетры аўтадарогі «Мінск—Гродна» яго выкінула на паласу сустрэчнага руху. Кіроўца не здолеў выправіць сітуацыю. Маршрутка з'ехала ў правы кювет і перакулілася. Акрамя кіроўцы, у салоне ехалі пяць пасажыраў. Адзін з іх з пераломам ключыцы і рэбраў трапіў у бальніцу.

**Падрыхтаваў Сямён Печанко**

**Парады ў дарогу**

Сучасныя аўтобусы абсталяваныя рамянямі бяспекі. Спецыялісты МНС настойліва раяць карыстацца імі. Па магчымасці перад ад'ездам ці ў часе руху варта азнаёміцца з месцам захоўвання вогнетушыцеля, а таксама месцам размяшчэння аварыйных выхадаў. Прачытайце інструкцыю выкарыстання аварыйнага люка.

# Знайшлі цела 13-гадовай дзяўчынкі

Юлію Ляшук **шукалі з 1 студзеня**.

Цела васьмікласніцы знайшлі 15 студзеня ў полі недалёка ад вёскі Лядзец (Столінскі раён). Па падазрэнні ў забойстве затрыманы мясцовы жыхар 1994 года нараджэння. Ён і паказаў, дзе закапаны труп. Як выйшлі на маладога чалавека, следчыя не раскрываюць.

Па інфармацыі «Камсамольскай праўды», труп зніклай дзяўчынкі знайшлі за некалькі метраў ад кладкі, дзе былі адшуканыя яе рэчы: бот, гумка для валасоў, а на іншым беразе — бюстгальтар і плед. Нідзе не было ні кроплі крыві, не відаць было і слядоў барацьбы.

Затрыманы малады чалавек летась скончыў школу. Па словах мясцовых жыхароў, заўзятым хуліганам не быў, хаця на ўліку ў інспекцыі па справах непаўналетніх стаяў.

13-гадовая Юлія Ляшук з Лядца не вярнулася з навагодняй дыскатэкі 1 студзеня. Калі ж бацькі пачалі яе шукаць, то знайшлі побач з домам толькі яе мабільны тэлефон і некаторыя асабістыя рэчы.

2 студзеня ўпраўленнем Следчага камітэта РБ па Брэсцкай вобласці была заведзеная крымінальная справа па ч. 1 арт. 139 КК (забойства). Па падазрэнні затрымліваўся мясцовы жыхар. Але пасля яго адпусцілі: экспертыза ўстанавіла, што кроў на аддзенні мужчыны не належыць дзяўчынцы. Вадаём побач з вёскай даследавалі вадалазы, а ў самой вёсцы працаваў паліграфолаг.

**КМ**



« Дзяўчына не вярнулася з навагодняй дыскатэкі

**Справа Кужэльнай**

У лістападзе 2007 у Лагойскім раёне знікла 7-гадовая Ірына Кужэльная. Яе пошукі працягваліся паўтара месяца. Цела дзяўчынкі знайшлі за сем кіламетраў ад роднай вёскі са слядамі гвалтоўнай смерці — яе задушылі. Затрыманы быў 29-гадовы мінчанін, які прызнаўся ў забойстве. Медыкі пацвердзілі ў мужчыны псіхічнае захворванне.

## Сцісла

**1102 аварыі за тры дні**

Неспрыяльнае надвор'е спраукавала падваенне колькасці ДТЗ. Ад пятніцы да панядзелка супрацоўнікі ДАІ зафіксавалі па ўсёй краіне 1102 аварыі, што ўдвая перавышае сярэднестатыстычны паказчык. У аварыях за гэты час 8 чалавек загінулі, 84 атрымалі раненні, паведамляе прэс-служба УДАІ МУС. Толькі за пятніцу ў Мінску зафіксавана 224 ДТЗ.

**Гомельскія «пахавальнікі» куплялі інфармацыю пра нябожчыкаў у міліцыі**

Упраўленнем Следчага камітэта па Гомельскай вобласці распачатая крымінальная справа, прадметам якой стаў «зліў» інфармацыі аб памерлых грамадзянах. У атрыманні хабару падазраецца памочнік дзяжурнага аднаго з аддзяленняў міліцыі, выкрыты супрацоўнікамі 6-га ўпраўлення (па Гомельскай вобласці) Галоўнага ўпраўлення ўласнай бяспекі МУС Беларусі. Высветлена, што грошы міліцыянту перадаваў знаёмы — прадпрымальнік, які мае пахавальны бізнэс.

**Гаспадар дома загінуў, ратуючы маёмасць ад агню**

Гэта адбылося 15 студзеня ў хаце ў вёсцы Малая Боркаўшчына Маладзечанскага раёна. Загінуў 59-гадовы гаспадар. Папярэдняя прычына пажару — трэшчыны ў коміне. Па словах суседзяў, гаспадар жыў адзін, спіртным не злоўжываў.

**На Беларускім цэментавым заводзе ў Касцюковічах загінуў будаўнік**

Падчас будаўніцтва на заводзе новай вытворчай лініі аднаму з будаўнікоў на галаву звалілася дошка — на вышыні каля 40 м праходзіў дэмантаж апалубкі. Пацярпелы — малады мужчына, жыхар горада Стоўбцы — памёр на месцы. У яго засталіся жонка і маленькае дзіця.

**СП**

# Капітан Ягораў укрыўдаваў?

Прэзентацыя **новага альбома «Крамбамбулі»** нечакана адмененая.

«Драбадзі-драбада» — гэта не перафразаванае бітлоўскае «Аб-ла-дзі, Аб-ла-да». Гэта прыпеўка з ірландскай песні Whiskey in the jar. Або «Знікні прэч, туга», як спявае Вольскі. Песня не проста перакладзеная на беларускую, яна натуралізаваная: у ёй з'яўляюцца ўрочышча Якуцкія Горы і немагчымы ў Ірландыі персанаж — капітан Ягораў. Назва для альбома выбраная канцэптуальна, бо ён па-ірландску бесшабашны.

Вольскі і кампанія даказалі, што няма на свеце народа, песню якога яны не маглі б зрабіць сваёй. На дыску — песні з дзесяці еўрапейскіх краінаў, перапяваныя па-беларуску. Тут можна знайсці і рэдкую французскую Il etait un avocat, і класічны польскі шлягер Ciha Woda, а таксама нямецкую, харвацкую, шведскую, італьянскую, славенскую... Ёсць і колькі беларускіх песень.

На другім дыску — усё тое ж на мовах арыгіналаў. Яшчэ колькі краінаў, не прэзентаваных песнямі, пазнаюцца ў музыцы: Балканы, Шатландыя (цудоўная з дудой літоўская песня «Мур на ўзгорку»), нават Аўстралія (калі прыкладам аўстралійскай народнай музыкі лічыць творчасць гурта AC/DC).

Тут болей, чым на ранейшых дысках «Крамбамбулі», «энэрэмаўскіх» гітар. Альбом больш пасуе не для пасядзелак за куфлем-кілішкам-кубкам, а для скокаў у клубе падчас адрэналінавага рок-канцэрта.

І вось тут якраз пачынаюцца праблемы.

За месяц да прызначанай на 11 лютага прэзентацыі новага альбома мінскі клуб Re:Public

## Альбом па-ірландску бесшабашны »

адмовіўся прымаць «Крамбамбулю». Хоць пра канцэрт было дамоўлена раней і нават узгоднена ў Мінгарвыканкаме.

Лявон Вольскі неадназова заставаўся без выступаў з-за таго, што ягоная імя фігуруе ў негалосным «чорным спісе» дзеячаў мастацтва, якіх забаронена пускаць на афіцыйныя пляцоўкі, радыё і ТБ.

Дырэктар клуба Андрэй Старцаў запэўнівае, што прычына «пераносу канцэрта ў іншае месца» — якіясьці «ўнутраныя гаспадарча-камерцыйныя прычыны, рознагалоссі з арганізатарамі». Лявон Вольскі і арганізатар канцэрта Уладзімір Шаблінскі абураныя такой заявай. Тым больш што ў клуба знайшоўся альтэрнатыўны канцэрт на гэты вечар: мусяць зайграць гурты Akute, «Петля Пристрастия», Yellow Brick Road і Дзіма Ску.




**Дыск «Драбадзі-Драбада»** прадаецца ў дыскарнях «Містэрыі гуку» і кампаніі «Вігма», праз супер-маркеты і запраўкі, у інтэрнэце на oz.by.

«У нас прызвычаіліся, што дырэктар — гэта ўжо міні-прэзідэнт, — піша Вольскі на сваёй старонцы ў «Фэйсбуку». — Вырашыў, махнуў чароўнай палачкай — нешта адмянілася, а нешта іншае пачалося. Дык вось гэта ўсё да тае пары, пакуль мы з вамі згодныя з гэткім парадкам рэчаў. Якое-ніякое, кволае, а права яшчэ ёсць. І ёсць закон. Нават у нашай краіне. У рэчышчы закона мы і маем намер дзейнічаць далей».

«Мы рыхтуемся да шоу, да прэзентацыі, — кажа менеджар «Крамбамбулі» і жонка Лявона Ганна Вольская. — Там ці не там адбудзецца канцэрт — гэта ўжо як жыццё дасць. Зараз спадар Шаблінскі працуе з юрыстамі, бо парушэнні заканадаўства з боку клуба ёсць».

Новы альбом «Крамбамбулі» аматары гурту чакалі чатыры гады — апошні альбом «Святочная» выйшаў у 2007.

**Юрась Ускоў, Сяргей Мікулевіч**

**In memoriam**

# «Ён зняў скульптуры з пастаментаў»

16 студзеня памёр **Уладзімір Жбанаў**: скульптар, які змяніў вобраз Мінска.

Замежнікі, якія наведваюць беларускую сталіцу, адзначаюць яе душэўную гарадскую скульптуру. Элегантная «Незнаёмка» на лаве ў Міхайлаўскім скверы, упадабаны дзецьмі «Экіпаж» каля Ратушы, фактурная «Прадаўшчыца семак» ля Камароўкі...

Іх стваральнік, Уладзімір Жбанаў, дзесяць дзён не дажыў да 58-годдзя. Апошнія дні ён знаходзіўся ў рэанімацыі.

«У Валодзі была вядомасць народная, — успамінае скульптара пісьменнік і мастак Адам Глобус. — Усе ведаюць скульптуры Жбанава, з імі любяць фатаграфавацца — з дзяўчынай на лаўцы, з дзяўчынай пад парасонам. Ён стварыў такую прывабную народную скульптуру, якую хочацца пакідаць на памяць на фотаздымках.

Гэта першы гарадскі мінскі скульптар. Тое, што было створана да яго, было ўаснойным для прапаганды. У тых скульптурах не было радасці, забаўкі, яны не ствараліся дзеля весялосці. Валодзя натуральна зламаў стэрэатып. Ноу-хау Валодзі было тое, што ён прыбраў скульптуру з пастамента. Яго за гэта крытыкавалі, што дзяўчына стаіць на зямлі, проста на ходніку, босая на снезе... Але менавіта гэтыя скульпутры любяць людзі.

Ён хацеў быць акторам тэатра і кіно, разам з маім братам яны ездзілі да Высоцкага, пазнаёміліся з ім. Але сям'я ў Жбанава была вайсковая, нават маці працавала ў ваенкамаце. І яна сказала, што яшчэ скульптара зразумее, а акторам — толькі праз яе труп. Валодзя стаў скульптарам...

Ён, як кажуць сёння, быў пазітыўны, хаця жыццё было вельмі складанае і змрочнае. Асабліва афганская вайна, якую я лічу адной з асноўных прычын яго ранняга сыходу. Ён трапіў туды нечакана — мусіў адслужыць год пасля інстытута. Сваякі-вайскоўцы дапамаглі яму адправіцца не ў Сібір якую-небудзь, а ў Віцебск. І вось ён прыехаў у часць увечары, а ноччу іх паднялі і без падрыхтоўкі адправілі ў Кабул...

Скульптура — гэта працяг асобы. Вось характэрны для Жбанава выпадак: ён перажываў, што ён не мастак. Бо калі мастак ідзе з эцюднікам, гэта ўсе бачаць здалёк, у тым ліку дзяўчаты. Таму Валодзя пазычаў у майго брата эцюднік і казаў: «Хачу, каб усе бачылі, што я чалавек мастацтва». Такі знешні эфект. Скульптур у горадзе шмат, а мы звяртаем увагу на Валодзевы, бо яму так хацелася».

**Запісаў ЮУ**

**Уладзімір Жбанаў**

Нарадзіўся 26 студзеня 1954 у Мінску ў сям'і вайскоўца.
У 1973 скончыў Мастацкае вучылішча імя Глебава.
У 1979 — Тэатральна-мастацкі інстытут. Служыў у войску ў Афганістане.
У 1985—1999 выкладаў у Мастацкай вучэльні імя Глебава. Стварыў скульптуры «Незнаёмка», «Курэц», «Дзяўчынка з парасонам» у Міхайлаўскім скверы сталіцы, «Фатограф», «Дама з сабачкам», «Прадаўшчыца семак» (Камароўскі рынак), «Экіпаж» (каля Ратушы), «Дойлід» (плошча Незалежнасці), у Маладзечне стаіць яго скульптура «Залатая папараць».
Адна з апошніх яго работ «На закупах» пастаўленая каля мінскага ЦУМа.



**Кіно**

# Дыктатар і казлапас

Саша Барон Коэн забамбіў **новы фільм**.

20 чэрвеня на экраны выходзіць фільм «Дыктатар», галоўную ролю ў якім выконвае эпатажны англійскі комік Саша Барон Коэн. Вядомасць яму прынеслі фільмы «Борат» і «Бруна».

Рэжысёр Лары Чарльз натхняўся раманам «Забіба і цар», які напісаў ледзь не Садам Хусэйн, і «арабскай вясной». А Коэн доўга адмаўляўся ад галоўнай ролі, баючыся, што радыкальныя ісламісты будуць яго праследаваць.

Коэн іграе ў «Дыктатары» адначасова дзве ролі: зрынутага дыктатара, які апынуўся ў ЗША, і казлапаса. Гісторыі абодвух персанажаў развіваюцца паралельна.

Новая стужка, як апісваюць яе стваральнікі, — «захапляльная гісторыя дыктатара, які гатовы рызыкаваць сваім жыццём, абы толькі дэмакратыя ніколі не прыйшла ў ягоную краіну, якую ён з такой любоўю, з такой адданасцю прыгнятае».



Многія кадры будуць не новымі для беларускага гледача: генеральскія мундзіры, парады, жанчыны-спецназаўкі, ламанне цэглы рознымі часткамі цела, спартовыя спаборніцтвы, у якіх перамагае кіраўнік дзяржавы...

**ЮУ, СМ**

**Сцісла**

### «Басовішча-2012» пад пагрозай

«Беларускае аб'яднанне студэнтаў», якое ладзіць рок-фестываль «Басовішча», сёлета не атрымала на яго 50 тысяч даляраў ад Міністэрства адміністрацыі і інфарматызацыі. Прычынай называецца ндабрасумленнае стаўленне арганізатараў да фінансавых справаздачаў. Дырэктар Падляскай оперы і філармоніі прапанаваў правесці адзін ці два канцэрты фестывалю ў беластоцкім амфітэатры. «Басовішча» праходзіць на Беласточчыне ад пачатку 1990-х.

### Выйшаў каляндар Belarus Press Photo на 2012 год

Арганізатары фотаконкурсу Belarus Press Photo падрыхтавалі насценны каляндар на 2012 год са здымкамі пераможцаў конкурсу. Адшукаць каляндар можна ў «Падземцы», «Ў», «Логвінаў», prastora.by, knihi.by. Незалежны конкурс прэс-фатаграфіі ў Беларусі Belarus Press Photo заснаваны ў 2010 годзе. Мэтай яго з'яўляецца падтрымка і развіццё прафесійнай прэс-фатаграфіі ў краіне. Летась гран-пры Belarus Press Photo атрымаў фотакарэспандэнт «Нашай Нівы» Сяргей Гудзілін.

**СП**

# Адкуль бяруцца ляпы кшталту Скарыны Піцерскага?

**Лукашэнка і ягоныя спічрайтары.**

Нядаўна Лукашэнку злавілі альбо на навяданні або звычайнай хлусні: адказваючы на прэс-канферэнцыі пра беларускі катынскі спіс, ён заявіў, што «ніводнага паляка на тэрыторыі Беларусі знішчана не было». Пры гэтым ён падкрэсліў, што «займаўся пытаннем».

Такога кшталту ляпы — фірмовы знак як бы гісторыка Лукашэнкі. І калі капірайт на самыя фантастычныя перліны, кшталту Францішка Скарыны ў Піцеры, безумоўна належыць яму самому, безліч драбнейшых памылак, шчодра рассыпаных па лукашэнкаўскіх прамовах на гістарычныя тэмы — заслуга ягоных спічрайтараў.

Калі Лукашэнка кажа, што ён «займаўся пытаннем» — значыць, ягоныя падначаленыя рыхтавалі для яго адмысловае дасье.

Насамрэч, як вядома з рассакрэчаных расійскіх архіваў, катынскі спіс налічвае 21 857 ахвяр і ўключае 7 305 чалавек, расстраляных у турмах Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. Не апублікаваны толькі звесткі, каго ў якой менавіта турме забілі. І акурат гэтыя звесткі прасілі нашчадкі ахвяраў, пра што і пытаўся на прэс-канферэнцыі карэспандэнт Польскага радыё.

А вось іншы прыклад: «толькі ў Брэсцкай крэпасці гітлераўцы страцілі столькі ж жывой сілы, колькі ў часе ўсёй французскай кампаніі» (з выступу Лукашэнкі на ўрачыстым зборы, прысвечаным 65-годдзю перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне, 7 мая 2010 года).

Страты 45-й пяхотнай дывізіі вермахта, якая штурмавала Брэсцкую крэпасць, добра вядомыя: 453 забітыя, 668 параненых. Добра вядомыя і нямецкія страты падчас французскай кампаніі: 45 074 забітых, 110 043 параненых, 18 384 прапалі без звестак (у большасці выпадкаў гэта азначае, што яны загінулі таксама). Як кажуць, адчуйце розніцу.

Чаму маўчыць Інстытут гісторыі НАН — зразумела.

Цікава, ці пралезе гэтае «адкрыццё» ў падручнікі? І ўвогуле, quousque tandem, прыкарытныя халтуршчыкі?

**Юлій Каралёў, arche.by**




« Халтурная праца лукашэнкаўскай абслугі

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск.**
**e-mail: nn@nn.by.**
**Факс: (017) 284-73-29**

## Прапагандыст Гігін узнагароджаны медалём Скарыны

**Вось так сустрэліся Францішак Лукашоў сын Скарына з Вадзімам Францавым сынам Гігіным.**

Трое супрацоўнікаў Беларускага тэлеграфнага агенцтва (БелТА) узнагароджаны медалямі. Адпаведны загад 6 студзеня падпісаў Лукашэнка, паведамляе БелТА.

Медаля «За працоўныя заслугі» ўдастоены першы намеснік генеральнага дырэктара агенцтва Ігар Луцкі.

Галоўны рэдактар часопіса «Беларуская думка» Вадзім Гігін і фотакарэспандэнт рэдакцыі фотаінфармацыі Віктар Талочка ўзнагароджаны медалём Францыска Скарыны.

Вадзім Гігін, апроч іншага, таксама вядзе блог на сайце БелТА, дзе бэсціць апазіцыю, Еўрасаюз і ўсяляк ухваляе курс Лукашэнкі. Яму забаронены ўезд у ЕС. Гігін спрабуе аспрэчыць забарону ў Еўрапейскім судзе па правах чалавека.

Ва ўзнагароджанні Гігіна медалём Скарыны ёсць і пэўная іронія. Гігін — адзін з нешматлікіх беларускіх інтэлектуалаў-русафілаў, ды такі заўзяты. Пры Гігіну «Беларуская думка» стала трыбунай новага заходнерусізму.

У той жа час Скарына быў сімвалам прыналежнасці Беларусі да заходнееўрапейскага культурнага поля: вучыўся ў Падуі, аддрукаваў першую кнігу ў Празе, абапіраўся ў сваёй асветніцкай дзейнасці на віленскую буржуазію, рэалізоўваў ідэі тагачаснай перадавой еўрапейскай інтэлігенцыі.

Вось так сустрэліся Францішак Лукашоў сын Скарына з Вадзімам Францавым сынам Гігіным.

...А нам застаецца далучыць свае віншаванні.

**Мікола Бугай**

# Беларуская глыбіня. **Ад крамы да храма**

**Піша Павел Севярынец.**



**Павел Севярынец**
палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

*Праз тры дні знайшлі Яго ў храме,*
*Сядзеў сярод настаўнікаў,*
*слухаў іх*
*І распытваў іх.*
*Лукі 2:46*

Час у Пружанах спыніўся. Разгублены. Не ведае, куды дацца. Быццам і новы год, але які ж ён, халера, новы — чым далей, тым болей у навінах праглядвае бэ-у. Усё вакол да агіды знаёмае, і няможна даўмецца, ну колькі яшчэ яно працягне, гэтае BY?!.

А між тым 2012-ты ад нараджэння Хрыстовага — забыты юбілей. 2000 гадоў таму, калі Ісусу споўнілася дванаццаць, бацькі падчас штогадовай пілігрымкі ў Ерусалім згубілі Яго — і ўрэшце адшукалі толькі ў святыні. Ён распытваў настаўнікаў і здзіўляў усіх сваім розумам. Адзіная падзея з жыцця Хрыста ад дзяцінства да 30-годдзя, адзначаная ў Евангеллях. Такім чынам, 2012: шукаеце Збаўцу? Ён у царкве.

**Крызіс — прамая дарога ад страўніка да сэрца »**

Акурат 1-га студзеня, маючы колькі гадзінаў да вяртання ў камендy, вандрую па пружанскіх храмах, спрабую знайсці штосьці новае ў новым 2012-м. Пагатоў, нядзеля.

У Спаса-Праабражэнскай царкве на Горцы, дзе з часоў Вялікага княства хаваюць праваслаўных па левы бок вуліцы, а каталікоў — па правы, народу поўна. Што характэрна, дзясятая гадзіна ранку 1-га, а паху перагару — ані. Мужчынаў хіба трацiна. Ціха: калі падчас набажэнства раптам звініць мабільны, айцец Ігар раскаціста папярэджвае: «Знайду, чый тэлефон — зашпурну так, што будзеце шукаць на каталіцкіх могілках!»

У пружанскім касцёле, дзе калісьці настаяцелем пачаў сваё пастырскае служэнне кардынал Казімір Свёнтак, дзе за саветамі зрабілі дыскатэку, у першы дзень новага года зранку занятыя ўсе лавы. Хор распяваецца польскімі калядкамі: «Chwała na wysokości!..» Малады ксёндз-паляк гаворыць па-расейску, але галоўная імша — беларуская. Елка пры алтары, перавітая сінімі гірляндамі, мігціць у такт акордам аргана. Пружанцы тут апрануты больш дыхтоўна; жанчыны выкшталцоныя — але мужчынаў яшчэ менш, мо кожны пяты, нават з улікам міністрантаў.

Як ні дзіўна, у пружанскіх крамах 1 студзеня пуста. Нявыспаныя касіркі ды шорханне некалькіх самотных наведнікаў: падаецца, гэтыя зайшлі ў святыню спажывецтва хіба што паводле штодзённага заведзенага рытуалу і марна спрабуюць сфакусаваць позіркі на паліцах.

Беларускае сэрца, якое пераганяла кроў па нагах, руках ды кішках, амывала найдаражэйшы страўнік, фільтравала з печані алкаголь, раптам сталася ў трывожным чаканні. Штодня смакаваць кілбаску робіцца, як і ў 90-х, раскошай. Божа, куды ж цяпер, а?!

І вось на Усяночную на праваслаўнае Раство царква перапоўненая. Задуха. Паспалітаму люду цікава, што ж адбудзецца роўна а дванаццатай. Стаяць, прыслухоўваюцца — да малітвы, да народу, да сябе. Апоўначы запальваецца святло: Хрыстос нарадзіўся!

Цуд на Каляды.

Люд тоўпіцца, падымаецца на дыбачкі, каб угледзець — што там, у стаенцы пад елкамі. Нічога не бачна. Пад манатоннае чытанне натоўп паціху рассмоктваецца. На літургію застаюцца верныя. Здаецца, у 2012-м усё як заўжды.

І раптам — «дзінь-дзілінь!..» Дзіцячыя галасы. Школьны хор спявае беларускія калядкі! «Учора з вячора», «Ціхая ноч», «Маці Божа»... Пяць беларускіх, дзве расейскія і нават адна ўкраінская. Для поўнага беларускага міжмоўнага шчасця не стае хіба польскай — той самай, з касцёла. Цуд другі!

Нарэшце, цуд трэці. Пасланне Патрыярха Маскоўскага Кірыла чытаецца... таксама па-беларуску. Настаяцель старанна выгаворвае «ў» ды «р», і хіба што па выбухным «г» можна вызначыць: такое тут упершыню.

Беларускасць нараджаецца наноў там, дзе і належыць нацыі з 1000-гадовымі хрысціянскімі каранямі.

Раство ў глыбінцы заўжды больш цёплае і блізкае, чым у вялікім горадзе: усё-такі нараджэнне Госпада адбылося ў стайні, у яслях, у сям'і. Ды і пастухоў і мудрацоў на тысячу чалавек насельніцтва тут хіба што паболей.

Зрэшты, большасць беларусаў пакуль што дома. У краму ўжо няма з чым — даядаюць святочнае, у храм — няма дзеля чаго. Але ўжо робіцца ясна: чым глыбей крызіс, тым болей народу ўрэшце крэкне ды пойдзе пашукаць — дзе ж яны ўсё-такі згубілі Бога?

Уявіце сабе, слова «крызіс» па-грэцку азначае «суд». Так і ў Евангеллях — крызіс. Вось ужо год беларускія пратэстанты кажуць, што і рэжым, і народ праходзяць суд Божы. За ўсё. За злосць і абыякавасць. За п'янства. Праваслаўны атэізм. Цярпімасць да зла. Страх.

Крызіс — прамая дарога ад страўніка да сэрца, ад крамы да храма.

Яшчэ крыху — і беларускі народ будзе гатовы шукаць, дакуль не знойдзе. Ці гатовая царква?..

Як і калісьці — слухае і распытвае, не сціхае дзвюхтысячагадовым рэхам, прабірае мурашкамі па ўсім целе беларусаў Сам Бог.

*Куплін*

Да выхаду ў свет 12-га тома Збору твораў Максіма Танка. Піша **Анатоль Сідарэвіч**.

# Пра недарэчнасці і навуковую этыку

Гэтую кнігу я чакаў. Яна была патрэбная мне для працы. Насуперак таму, што рэдакцыйная калегія анансавала, эпісталярная спадчына Танка з'явілася не ў 13-м, а ў 12-м томе Збору твораў.

Тут можна было б сказаць, што мяне чакала прыемная неспадзяванка.

Так, каштоўны сам факт, што 844 напісаныя і падпісаныя Танкам лісты, паштоўкі і тэлеграмы да 178 індывідуальных і калектыўных адрасатаў сабраныя пад адной вокладкай. Так, апублікаваная ў кнізе эпісталярная спадчына паэта — гэта матэрыял, які прыдасца для працы кожнаму, хто вывучае яго жыццёвы і творчы шлях. Але што тычыцца ўсяго астатняга — палітызаванай прадмовы, падачы многіх тэкстаў і ўзроўню каментароў да іх, — дык новы том выклікае пачуццё адчаю. Перайначыўшы словы Янкі Купалы, пра шмат што ў кнізе можна сказаць: лепш бы не бачылі нашыя вочы.




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Публікатары не ўчыталіся?

У 2007 годзе мне давялося пісаць водгук на першыя чатыры тамы Збору твораў Танка. Я паказаў у ім нязручнасці для чытача і даследчыка, якія стварылі рэдактары з цяпер ужо ліквідаванага Інстытута літаратуры Акадэміі навук і акадэмічнага выдавецтва «Беларуская навука». У гэтым томе таксама хапае нязручнасцяў. Лісты надрукаваныя не ў храналагічным парадку, а па адрасатах, а ўжо ў кожным імянным раздзеле — у храналагічным парадку. Добра, калі лістоў адзін-два. А калі некалькі дзясяткаў і яны не пранумараваныя, а ў каментарнай частцы кнігі не паказана, на якой старонцы той ці іншы ліст надрукаваны? Чытач, каб не збіцца з тропу, вымушаны мець як мінімум дзве закладкі.

Публікатары не зусім уважліва ўчыталіся ў рукапісы Танка, і таму слова «мастацтваведа» ператварылася ў загадкавае «мастацтва Седа» (с. 104). У іншых лістах чытаем «горы набраў бы іх!» замест «чорт пабраў бы іх!»; «рэдакцыі» замест «рэляцыі»... Не збіцца з панталыку дапамагае тое, што пазалетась гэтыя лісты публікаваў Міхась Скобла.

## Квадратныя дужкі

Тым, хто рыхтаваў 12-ты том да друку, належыць своеасаблівае ноу-хау — каментары да тэкстаў непасрэдна ў тэкстах. «Узорным» у гэтым сэнсе можна лічыць ліст Танка да А. Губскай (як паведамляецца ў каментары, вучаніцы 8-га класа). Паэт пісаў: «Я атрымаў Ваша цікавае пісьмо, шчыра дзякую за добрыя пажаданні. Прызнацца, з гадамі хваробы і розныя жыццёвыя беды і клопаты так абмежавалі мой час, што бывае месяцамі не бяруся за пяро. Таму не крыўдуйце, калі мае адказы на Вашы пытанні будуць кароткімі, нездавальняючымі».

Не патлумачыўшы нам, у якой школе вучылася, у якой мясцовасці жыла А. Губская, які яе далейшы лёс, публікатары затое бяруцца растлумачыць нам у квадратных дужках, што хацеў сказаць пісьменнік адрасатцы. І вось той самы абзац з іх устаўкамі:

«Я атрымаў Ваша цікавае пісьмо, шчыра дзякую за [Вашы] добрыя пажаданні. [І хоць апошнімі часамі] Прызнацца, з гадамі хваробы і розныя жыццёвыя беды і клопаты так абмежавалі мой час, што [няма калі часта бывае [часто] не на ўсе лісты магу адказаць] бывае месяцамі не бяруся за пяро. Таму не крыўдуйце, калі мае адказы на Вашы пытанні будуць кароткімі, нездавальняючымі».

«Адрэдагаваных» у такі спосаб лістоў у кнізе аж надта шмат.

Складаецца ўражанне, што публікатары не зусім добра ведаюць беларускую мову. І справа не ў слове «часто» (гэта магла быць апіска). Прыкладам, яны не здагадваюцца, што слова «акрыяць» — сінонім слоў «ачуняць», выпраўляюць на «акры[л]яць». І ў лісце хворага паэта да хворага крытыка Уладзіміра Калесніка мы чытаем нешта зусім недарэчнае: «І ўсё ж — па добрай традыцыі — дай нам бог, калі ён недзе ёсць, крыху акры[л]яць і ад сваіх недамаганняў, і трывог і вярнуцца да надзей на лепшую будучыню...» У іншым каментары напісана, што на лісце змешчаныя «выявы бабачак». І хоць у Беларускай Энцыклапедыі і Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва сцвярджаецца, што ў 1937 годзе заходнебеларускі мастак Міхал Сеўрук напісаў карціну «Жніво», у каментары да аднаго з лістоў чытаем, што тая карціна мае назву «Жатва»...

## Юрэвіч, ды не той

Як відаць, энцыклапедычныя выданні далі каментатарам мала карысці. Вось ліст М. Танка да Я. Грынкевіч, у якім гаворка ідзе пра яе арыштаванага мужа-лекара і пра Кузьму Чорнага, які хадайнічаў за арыштанта перад пракурорам БССР Іванам Вятровым. У каментарах імёны Я. Грынкевіч і яе мужа не расшыфраваныя. Тым часам у Беларускай Энцыклапедыі і ў Энцыклапедыі гісторыі Беларусі маюцца артыкулы пра лекара, дзеяча хрысціянскай дэмакратыі і заходнебеларускага літаратара Станіслава Грынкевіча. Як звалі яго жонку, можна было б даведацца ў дасведчаных людзей. Маюцца ў энцыкалапедыях і звесткі пра І. Вятрова. Там напісана, што пасаду пракурора БССР ён займаў у 1944—1949 гг., але ў каментарах сцвярджаецца, што пракурорам ён быў у 1940—1941 гг. А вось што чытаем пра Лявона Юрэвіча: «...беларускі пісьменнік і літаратуразнавец. Заслужаны работнік культуры Беларусі. Даследчык беларускай прозы, мастацкай публіцыстыкі. Аўтар зборнікаў апавяданняў, літаратуразнаўчых кніг». Той, хто ведае бібліёграфа, архівіста, гісторыка беларускай літаратуры на эміграцыі і даследчыка мемуарыстыкі Лявона Юрэвіча, здзівіцца: няўжо яму, эмігранту, прысвоілі званне заслужанага работніка культуры? А справа ў тым, што каментатары прыпісалі Лявону Юрэвічу інфармацыю пра Уладзіміра Юрэвіча. Пра гэта ў каментары сведчаць гады жыцця Уладзіміра Міхайлавіча: 1916—2005.

## Дзе чатыры лісты да Геніюш?

Я чакаў гэтую кнігу перш за ўсё дзеля лістоў Максіма Танка да Ларысы Геніюш, бо Міхась Скобла апублікаваў у 2010 годзе толькі частку іх. І вось у раздзеле «Да Л. А. Геніюш» я змог прачытаць 39 тэкстаў запар. Але на сёння вядомыя 43 лісты Танка ў Зэльву. У кнігу чамусьці не ўключаныя лісты ад 16 сакавіка, 15 красавіка і 31 кастрычніка 1966 года, а таксама ліст ад 15 красавіка 1982 года. Яшчэ горш тое, што 8 тэкстаў пададзеныя чытачам як першапублікацыі, хоць насамрэч два лісты 1966-га, тры лісты 1967-га, два лісты 1968-га, а таксама ліст Танка ад 7 верасня 1982 года былі надрукаваныя ў трэцім выпуску беларускага біяграфічнага альманаха «Асоба і час».

Не будзем тут разважаць пра навуковую этыку. Засяродзім увагу на каментарах. Дакладней — на іх адсутнасці. Паэт піша паэтцы: «Вельмі ж харошы ліст прыслаў Вам Міхасёк». Гэта я ведаю, што Міхасёк — унук Л. Геніюш. Ведаю, што Танк мае на ўвазе Уладзіміра Караткевіча і яго будучую жонку, калі дзеліцца ў лісце навіной: «...сустрэў Калесніка, ад якога і даведаўся, што Уладзімір закахаўся ў Брэсце ў харошую дзяўчыну». А паспаліты чытач? Не шкодзіла б патлумачыць яму, напрыклад, што Марыя Канстанцінаўна (ліст ад 27 студзеня 1968 года) — гэта Хайноўская, якой Янка Купала пісаў гарэзлівыя лісты. Паэт піша пра свайго ўнука Максіма, іншых родзічаў, але ў каментарнай частцы, дзе маецца пералік сваякоў Танка, якіх ён згадвае, чамусьці адсутнічаюць звесткі пра гады жыцця, прафесіі і заняткі кожнага з іх.

Пералік агрэхаў можна доўжыць, але пашкадую чытачоў. І з таго, што я тут напісаў, яны, пэўна, зразумелі, што кніга выдадзена на недастатковым прафесійным узроўні. Гэта хутчэй накід адпаведнага тома будучага Збору твораў Максіма Танка, які выйдзе богведама калі.

Сённяшні ж Збор твораў, як і Поўны збор твораў Янкі Купалы, як і некаторыя іншыя выданні такога роду, паказвае, што ў Беларусі пакуль няма высокапрафесійнай філалагічнай навукі. Былі і ёсць асобныя класныя філолагі, але навуковай школы (тым болей школаў) няма. І я не ўпэўнены, што дачакаюся сапраўды акадэмічнага выдання збору твораў хоць аднаго з нашых класікаў.

**Кнігі, дасланыя ў рэдакцыю**

# Падборка выданняў, прысвечаных Берасцейшчыне

**Міхась Андрасюк. Вуліца добрай надзеі: апавяданні. — Мінск: «Медысонт», 2010.**

Кніга апавяданняў беларускага пісьменніка з Польшчы Міхася Андрасюка знаёміць з мінулым і сучасным каларытных жыхароў вёсак і мястэчак Беласточчыны. Гэтай добрай прозе ўласцівы прывабныя рысы: лірызм, метафарычнасць, ласкавая іронія і дасціпны гумар, тонкі псіхалагізм і разуменне таго, якой павінна быць літаратура, каб захапіць чытача. Першая фраза першага апавядання кнігі — «За граніцай лес, а за лесам —– рускія» — можа наогул стаць своеасаблівай квінтэсенцыяй сучаснага жыцця беларусаў, нават і тых, што жывуць не на памежжы, а і ў сталіцы Беларусі. Горача рэкамендую ўсім, хто чытае для таго, каб асвяжыць душу і набыць сілы жыць далей.

**Володимир Леонюк. Словник Берестейщини. Том 2. — Львоў: «Афиша», 2010.**

Гэтая кніга —– працяг выдадзенага ў 1996 г. «Словника Берестейщини». Абодва выданні задумляліся аўтарам як своеасаблівая інвентарызацыя ўсяго, што сведчыць аб украінскасці Берасцейшчыны. Важнасць гэтай працы для беларусаў цяжка пераацаніць: вяртанне гістарычнай памяці ўкраінцам Берасцейшчыны неймаверна важнае для захавання незалежнасці Беларусі і захавання беларускасці ў дзяржаве перад выклікам расейскай культурнай і палітычнай акупацыі.

Хочацца звярнуць увагу і на постаць аўтара: Володымыр Лэонюк (1932 г.) —– ураджэнец в. Крытышын (Іванаўскі раён), у 1952 г., у апошнім класе школы, быў асуджаны на 25 год лагераў за распаўсюд рукапісных антысавецкіх улётак. Адседзеў з іх 16 год. Зараз жыве ў Львове. Вельмі прыхільна ставіцца да беларусаў і дзейна дапамагае іх барацьбе, разам з тым не прымае нічога, што фальсіфікуе ў беларускі бок рэальную гісторыю яго роднай зямлі.

**Dzmitry Kliabanau. Krok po kroku poznajemy Białoruś — Крок да кроку знаёмімся з Беларуссю. — Кракаў, Выдавецтва Ягелонскага ўніверсітэта, 2010 г., 196 с., з іл.**

Кніга ўяўляе сабой дапаможнік для польскіх студэнтаў і іншых асоб, якія вывучаюць беларускую культуру, гісторыю, мову. Пабудаваная ў форме асобных заняткаў па розных тэмах, кожны занятак прыводзіцца па-беларуску і ўключае асноўны тэкст, ключы да яго, пытанні да тэксту і слоўнік; пераклад асноўнага тэксту даецца і па-польску.

**Яаков Менакер. Книга первая. 1929—1941 гг. Авторский самиздат, Иерусалим, 2010 г., 345 с., с илл.**

Гэта першая частка трылогіі мемуараў, напісаная і выдадзеная самім аўтарам накладам 20 асобнікаў. Маючы выключна добрую памяць, якая захавала на подзіў многа ўражваючых падрабязнасцей, аўтар, якому цяпер каля 90 год, апавядае пра перажытае: дзяцінства і юнацтва ва ўкраінскім сяле Кацюжаны, службу ў Чырвонай Арміі, першыя дні вайны, палон, шматлікія свае трагічныя і дзівосныя прыгоды... Аўтару ўдалося ўцячы з палону, і ён вырашыў вяртацца дадому. Беларускаму чытачу будуць асабліва цікавыя старонкі, дзе апісваецца вяртанне па тэрыторыі сучаснай Беларусі. Некалькі месяцаў сп. Менакер, выдаючы сябе за ўкраінца, пражыў у сяле Сіманавічы на Брэстчыне. Побыт, гаворкі, сюжэты жыцця — усё гэта выкліча асаблівую ўвагу жыхароў тых мясцін.

Выклікае павагу і захапленне не толькі жыццёвы шлях аўтара, але сам факт напісання мемуараў: несумненна, досвед жыцця старэйшага пакалення будзе захапляльна цікавы для многіх маладзейшых чытачоў. Шкада, што прыкладаў з'яўлення падобных мемуараў нямнога.

**Падрыхтавала НБ**

## ХАКЕЙ

### Чэмпіянат КХЛ

**19 студзеня (чацвер).** «Дынама» Мінск — «Салават Юлаеў» (Уфа). Мінск-Арэна.**19.00.**
**24 студзеня (аўторак).** «Дынама» Мінск — «ЦСКА» (Масква). Мінск-Арэна.**19.00.**

## КАНЦЭРТЫ

### Тройца

**25 студзеня ў Белдзяржфілармоніі** — канцэрт этна-трыа «Тройца». **Пачатак а 19-й.**

### Шалкевіч

**10 лютага у ДК БелОГ (Уральская, 3)** выступіць легенда аўтарскай песні Віктар Шалкевіч. Даведкі па т.: (29)649-08-88. **Пачатак у 19.00.** Квіткі ад 25 000 да 45 000.

### Максіму Багдановічу

**21 студзеня ў Малой зале Філармоніі імя Р.Шырмы** адбудзецца музычна-літаратурная вечарына, прысвечаная 120-годдзю з дня народзінаў Максіма Багдановіча. **Пачатак а 19-й.**

### Рыгору Шырму

**24 студзеня ў Малой зале Белдзяржфілармоніі** адбудзецца канцэрт «Песня — душа народа», прысвечаны 120-годдзю з дня народзінаў Р.Шырмы. **Пачатак а 19-й.**

### Deutsch Nepal

**22 студзеня ў клубе «Re:public» (Прытыцкага, 62)** — эксперыментальная электронная музыка: канцэрт шведскага музыкі Пітэра Андэрсана з культавым праектам Deutsch Nepal. **Пачатак а 18-й.**

### Калядныя гімны

**22 студзеня ў музычнай гасцёўні «Дома Ваньковічаў» (Інтэрнацыянальная, 33а)** — канцэрт хору «Чырвоныя макі». Прагучаць калядныя гімны на лаціне, беларускай і польскай мовах. **Пачатак а 15-й.**

### Джаз: Ванда Марыя Гузман

**25 студзеня ў джаз-клубе Яўгенія Уладзімірава (Палац Рэспублікі)** — канцэрт соўлспявачкі Ванды Марыі Гузман (ЗША). 26 студзеня яна выступіць у ДК Прафсаюзаў. **Пачатак канцэртаў а 19-й.**

## ІМПРЭЗЫ

### Беларускі вечар у Маскве

**20 студзеня ў зале №6 Маскоўскага дома нацыянальнасцяў (Новая Басманная, 4, ст.м «Красныя вароты»)** адбудзецца літаратурна-мастацкі вечар з прэзентацыяй кніг маскоўскіх беларусаў: паэтычнага зборніка Івана Бурсава «Шагі», прозы Алеся Каждадуба «Дорога на Москву» і Івана Карэнды «Воплаўская госця», літаратурна-навуковага штогадовіка «Скарыніч». **Пачатак а 17.00.**

## ВЫСТАВЫ

### Метамарфозы

**Да 12 лютага ў Гістарычным музеі** працуе выстава піктаральнай фатаграфіі «Метамарфозы», прысвечаная 130-годдзю з дня народзінаў беларускага фотамайстра Льва Дашкевіча. Піктаральная фатаграфія — адзін з напрамкаў мастацкай фатаграфіі. Пікта-ралісты праз гульню светлацені і складаным метадам друку ператвараюць фотакартку калі не ў карціну, то ў малюнак альбо гравюру.

### Прасторы вольныя зямлі

**Да 27 лютага ў Мастацкім музеі (Леніна, 20)** працуе выстава «Прасторы вольныя зямлі» (беларускі пейзаж 1950—2000-х). Прадстаўлена каля 80 жывапісных твораў беларускіх мастакоў, выкананых у жанры пейзажу.

### Company & Цеслер

**Да 21 студзеня ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47)** экспануецца выстава «Company & Цеслер», на якой можна ўбачыць лялькі Алены Байрачнай, скульптуры Мікалая Байрачнага і Віктара Мінко, аб'екты Уладзіміра Цэслера.

### Збор сродкаў на аднаўленне сядзібы

**Ад 23 студзеня да 4 лютага ў Музеі гісторыі кіно (Свярдлова, 4)** працуе дабрачынная выстава з мэтай збору сродкаў для рэстаўрацыі гісторыка-культурнай каштоўнасці «Комплекс былога палаца Святаполк-Чацвярцінскіх у г.п. Жалудок».

### Новы год: час мінскі

**Да 1 сакавіка ў Музеі гісторыі горада Мінска (Рэвалюцыйная, 10)** працуе выстава «Новы год: час мінскі». Прадстаўлены больш за 300 прадметаў: гадзіннікі розных часоў, творы жывапісу, графікі, фотаздымкі, прадметы побыту і інтр'еру.

### Магілёўскае школішча: учора, сёння, заўтра

**Да 20 студзеня ў Музеі этнаграфіі Магілёва (Першамайская, 8)** працуе выстава «Магілёўскае школішча: учора, сёння, заўтра». Унікальныя гравюры, фотаздымкі, малюнкі, музейныя экспанаты, сабраныя у фондах Беларусі, Расіі і Германіі, разам з працамі сучасных мастакоў распавядаюць пра Школішча — гістарычнае прадмесце Магілёва, якое ўзнікла за межамі сярэднявечнага горада і з XVII стагоддзя было заселена габрэямі.




### Тыдзень дударскай музыкі

**26 студзеня** ў Малой зале к/з «Мінск» а 19-й — канцэрт «Легенды Вялікага Княства — старажытная зямля». Удзельнічаюць Testamentum Terrae, Brevis, Cornucopia, Irdorath folk band, сярэднявечны Вулічны Тэатр «Шальмоўскі Тэатр Ды Грыза», гурт гістарычнага танца «Фламея», Бурносенка Аляксей, школа гістарычнага танца «Залаты двор». У праграме таксама рыцарскія баі ад «Мінскай Уніі «Меч і Воран».
**27 студзеня** ў Брэсце ў ГКЦ — свята дуды з гуртамі «Стары Ольса» і Testamentum Terrae.
**28 студзеня** ў Гомелі ў ГЦК — свята дуды з гуртамі «Стары Ольса» і Testamentum Terrae.

### «Пікнік» у Мінску

20 студзеня.
КЗ «Мінск». 19.00.



Пакуль калегі па рок-н-рольным цэху пісалі песні пра партвейн, ноч і дождж, гурт «Пікнік» натхняўся Эдгарам По, Натаніэлем Горнам і іншымі гатычнымі рэчамі, якія на замежнай сцэне існавалі, а для СССР былі ў навіну. За тое «Пікнік» і быў раскрытыкаваны ленінградскай газетай «Смена», праз якую кожны камсамолец мог лёгка даведацца што варта паслухаць. Калі лаюць — значыцца, гурт варты.
У 1990-я гады лідар «Пікніка» Эдмунд Шклярскі ездзіў у пілігрымку да Папы, выступаў на мітынгах і перапісваў старыя альбомы ад пачатку і да канца. На альбомах з'яўляюцца струнныя аркестры і электронныя інструменты, на канцэртах — «жывая віланчэль» і іншыя элементы шоу. Сеня Шклярскі раз за разам стварае непадобныя альбомы, якія не дазваляюць налапіць на гурт ярлык «класіка 80-х»: «Каралеўства крывых», «Цемрашальства і джаз», зборнік ваеных песняў, «Тэатр абсурду» і «30 светлавых гадоў» даказваюць, што «Пікнік» у стане вытрымліваць канкурэнцыю і ў часы MTV і іншых VH1.

**ЮУ**

## ТЭАТРЫ

### 19 студзеня

**Юнага гледача** — «Мой бедны Марат»
**Беларускай драматургіі** — «Каласы пад сярпом тваім»
**Купалаўскі** — «Каханне ў стылі барока»
**Оперы і балета** — «Травіята»

### 20 студзеня

**Юнага гледача** — «Вандраванне ў княства Сноў»
**Лялек** — «Чайка. Вопыт прачытання»
**Беларускай драматургіі** — «Палёты з анёлам»
**Оперы і балета** — «Трыстан і Ізольда. Шапеніяна».
**Купалаўскі** — «Хам»
**Купалаўскі** — «Старамодная камедыя»

### 21 студзеня

**Юнага гледача** — «Брык і Шуся шукаюць лета»
**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»
**Купалаўскі** — «Translations»
**Беларускай драматургіі** — «Сталіца Эраўнд»
**Оперы і балета** — «Кармэн»
**Юнага гледача** — «Тарас на Парнасе»

### 22 студзеня

**Лялек** — «Чароўная лямпа Аладзіна»
**Юнага гледача** — «Кот у ботах»
**Оперы і балета** — «Стварэнне свету»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»
**Купалаўскі** — «Памінальная малітва»

### 23 студзеня

**Беларускай драматургіі** — «Спектакль №7»
**Купалаўскі** — «Паўлінка»
**Купалаўскі** — «ГендэльБах»

### 24 студзеня

**Беларускай драматургіі** — «Калі скончыцца вайна»
**Оперы і балета** — «Князь Ігар»

## КІНО

### Марцін Скарсэзэ шукае казку

**Захавальнік часу (Hugo)**
ЗША, 2011, каляровы, 126 хв, 3D
**Рэжысёр:** Марцін Скарсэзэ
**Ролі выконваюць:** Аса Батэрфілд, Хлоя Морэц, Бен Кінгслі, Джуд Лоу, Саша Барон Коэн, Крыстафер Лі
**Жанр:** Меладрама для ўсёй сям'і з элементамі кінамансэкіх фантазій
**Адзнака:** 4,5 (з 10)

1930-я. Маленькі Х'юга жыве на вакзале з дзядзькам-п'яніцам. Х'юга прагне адрамантаваць дзіўную прыладу, якую адшукаў яго бацька перад трагічнай смерцю. Каб здабыць дэталі да яе, хлопчык абкрадае старога гандляра цацкамі, у якога нейкія таямніцы...
У фільме Марцін Скарсэзэ абыграў драму рэальнага вынаходніка кінаэфектаў і фільмаў-фантазій Жоржа Мяльеса. Ён быў надоўга забыты і гандляваў лялькамі на вакзале.

Гэтая навагодняя стужка цукровая, амаль бесканфліктная. Акцёры падабраныя любоўна. Бен Кінгслі — у ролі Мяльеса, Джуд Лоу — летуценны бацька хлопчыка, а Саша Барон Коэн нечакана стаў трагікамічным паліцэйскім з жалезнай нагой. Але самая вялікая неспадзяванка карціны — старая хроніка, перароблена ў 3D і фільмы Мяльеса, зробленыя аб'ёмныя.

**Андрэй Расінскі**



# Як набыць айфон за сто даляраў

Як набыць патрэбную рэч на **заходнім аўкцыёне**?



Беларусы, якія хочуць паўдзельнічаць у аўкцыёнах, каб атрымаць адрэналін ад працэсу таргоў і ў якасці ўзнагароды займець патрэбны тавар, вымушаныя карыстацца замежнымі сайтамі. Чаму? Рэч у тым, што айчынныя інтэрнэт-аўкцыёны так і не здабылі папулярнасці. Большасць беларусаў не надта любіць гандлявацца, імкнучыся купляць тавары па фіксаваных цэнах. Нават у газетах з аб'явамі фразы «торг дарэчны» сустракаюцца рэдка.

А вось заходні свет таргуецца з задавальненнем. Адзін з найбуйнейшых і найпапулярнейшых сайтаў — амерыканскі інтэрнэт-аўкцыён eBay (www.ebay.com) — мае некалькі мільёнаў зарэгістраваных угодаў штодзень. За пятнаццаць гадоў працы кампанія выйшла на гадавы зварот у $10 мільярдаў і стала сапраўды сусветнай карпарацыяй. Большасць беларусаў, якія набываюць былы ў карыстанні тавар, заходзяць менавіта на гэты сайт.

У апошнія гады некаторыя пакупнікі сталі глядзець і ў бок Кітая. Тамтэйшыя парталы прапануюць вялікі выбар мясцовага недарагога тавару, самыя вялікія ўжо займелі расійскамоўныя версіі (напрыклад, www.rutaobao.com).

### Хто больш? Прададзена!

Прынцып таргоў аднолькавы паўсюль — ад Захаду да Усходу. Прадавец выстаўляе лот і ўмовы заключэння ўгоды. Напрыклад, выстаўляецца лот — былы ў карыстанні тэлефон iPhone 3. Стартавая цана складае $100. У Беларусі, дарэчы, такі самы каштуе каля $200. Часцяком прадавец указвае, што калі нейкі ахвотнік захоча купіць тавар адразу за $150, то таргі спыняюцца імгненна. Калі такой умовы няма, паведамляецца, колькі будзе працягвацца аўкцыён — дзень, тыдзень ці нават месяц.

На сайтах прадаецца не толькі тэхніка, заўсёды ёсць вялікі выбар адзення, кніг, музыкі і прыемных дробязяў. Калі добра пашукаць, можна знайсці зусім рарытэтныя рэчы.

Варта разглядаць толькі тыя тавары, прадавец якіх гатовы выслаць іх у Беларусь. Многія ставяцца да пакупнікоў з постсавецкай прасторы з недаверам, бо чакаюць ад іх махлярства. Звяртайце ўвагу і на рэпутацыю прадаўца. Калі ён мае шмат негатыўных водгукаў, можа, няварта рызыкаваць?

Калі нарэшце канкурэнты здаліся і засталася толькі вашая прапанова набыць iPhone 3, час аплачваць тавар.

### Электроннаму аўкцыёну — электронную аплату

Для аплаты патрэбна мець банкаўскую картку, а таксама зарэгістравацца ў плацёжнай сістэме PayPal.

Паколькі Ebay — амерыканская кампанія, таму для працы з ёй выгадней адкрываць картку Visa (рахунак у далярах), чым Mastercard (у еўра). Можна паспрабаваць звярнуцца ў розныя беларускія банкі, аднак пастаянныя пакупнікі раяць зрабіць выбар паміж трох варыянтаў: «Банк Масква-Мінск», «БПБ-Ашчадбанк» ці «Альфа-банк». Зарэгістравацца ў плацёжнай сістэме PayPal прасцей простага, дастаткова зайсці на яе сайт. Важнае ўдакладненне: краінай пражывання давядзецца ўказваць Расію, бо Беларусі ў прапанаваным спісе няма. Аднак пасля не забудзьцеся дапісаць сапраўдную назву краіны ў адрасе.

Атрымаўшы пацверджанне аплаты, прадавец вышле тавар. У залежнасці ад аб'ёму куплі дастаўка з ЗША можа каштаваць ад $2 да $130. У першым выпадку гэта маленькі канверт, у другім — дзесяцікілаграмовая скрынка сярэдніх памераў.

### Мытныя перашкоды

Шлях тавару да Беларусі звычайна займае адзін-два тыдні. Але трэба быць гатовым заплаціць мыту, каб атрымаць тавар. Гэта адбу-дзецца, калі ён каштаваў больш за 120 еўра. Мыта складае 30% ад «перабору», што робіць многія куплі нявыгаднымі. Напрыклад, за ноўтбук за 620 еўра давядзецца даплаціць ажно 150 еўра. Прычым ліміт датычыцца не адной пасылкі, а ўсіх атрыманых тавараў на працягу месяца. Калі ж кошт тавару заходзіць за 1000 еўра, то ўмовы становяцца проста драконаўскімі. Дзяржава запатрабуе сплаціць 60% ад кошту. Грошы можна аддаць альбо на мытні, альбо на пошце.

У суседзяў умовы больш ліберальныя. Напрыклад, расійцы могуць атрымліваць тавараў на 1000 еўра, не плацячы мыта, украінцы — на 200 еўра. Таму, калі ёсць магчымасць, выгадней замаўляць пасылкі на адрас расійскіх сваякоў.

Можна папрасіць прадаўца, каб ён указаў у дакументах трошкі меншы кошт, але на такі падман пойдзе далёка не кожны.

Калі не хочацца займацца пытаннямі афармлення карткі, можна звярнуцца да пасярэднікаў. Яны звычайна просяць каля 10% ад кошту тавару, але не менш за $10. У такім выпадку вы перадасце ім пры сустрэчы заклад, а яны аплацяць выйграны лот сваёй карткай. За дадатковую аплату можна даручыць пасярэдніку знайсці патрэбны тавар і паўдзельнічаць у аўкцыёне.

**Ягор Марціновіч**

**Найбуйнейшыя беларускія інтэрнэт-аўкцыёны**

http://ay.by/

http://allegro.by/

# Лыжы і сноўбард — хоць да страты прытомнасці

З надыходам сапраўднай зімы расце цікавасць да **гарналыжных курортаў**.

Некаторыя з іх запрацавалі напоўніцу зусім нядаўна. Напрыклад, у «Лагойску» сезон распачаўся 11 студзеня. Пракат лыжнага набору (лыжы+палкі+боты) на 1 гадзіну тут каштуе 30—50 тысяч рублёў у будні і выходныя дні адпаведна. Дзецям — удвая танней. Дзённы абанемент абыдзецца ў 145 тысяч рублёў (120 — у працоўныя дні). Столькі ж каштуе пракат сноўборда — дошка і боты ў камплекце.

Ніколі не стаялі на лыжах ці сноўбардзе? Не бяда, інструктар вас навучыць. Праўда, за дадатковыя 140 тысяч (1 гадзіна індывідуальных заняткаў) ці 50 тысяч рублёў (за гадзіну групавых заняткаў).

Скаціцца з горкі на спецыяльным коле — цюбінгу — каштуе 5 тысяч рублёў. Дарэчы, катацца на ім можна цэлы год. Летам трасу пакрываюць штучным матэрыялам накшталт лёду.



Сілічы — не Аўстрыя і нават не Карпаты, але пакатацца па схілах можна і тут.

Шчаслівыя ўладальнікі ўласных лыжаў ці сноўбарда змогуць ашчадзіць на пракаце спортінвентару. А вось за падымальнік плаціць давядзецца ўсім. Кошт 1 пад'ёму — 10 тысяч рублёў. Можна набыць абанемент (120—140 тысяч рублёў) і катацца хоць да страты прытомнасці.

У «Сілічах» вам прапануюць скаціцца з гары ў... празрыстым шары! Называецца такая паслуга — зорбінг (ад словаў z-orb — невядомая арбіта). Кошт 1 спуску — 30 тысяч рублёў. Не хвалюйцеся, што зімой вы змерзнеце ў тым шары: спуск доўжыцца не больш за хвіліну. А ўражанняў хопіць надоўга.

Пракат лыжаў і сноўбарда ў «Сілічах» крыху даражэйшы: 60 тысяч за гадзіну (40 — у працоўныя дні) ці 140—180 тысяч — за цэлы дзень. За спортінвентар Прэміум-класа давядзецца выкласці ўдвая больш.

Апроч звычайных лыжаў, можаце паспрабаваць сноўблэйд — «снежнае лязо». Гэта кароткія лыжы (да 100 см, іх яшчэ называюць «недалыжы»). Кошт пракату на 1 гадзіну — 16—24 тысячы рублёў, за дзень — 56—72 тысячы.

Спуск на цюбінгу ў «Сілічах» каштуе 20 тысяч. Сярод іншых паслугаў ёсць пракат бегавых лыжаў, санак і нават снегахода.

А вось у парку «Якуцкія горы», што непадалёк ад найвышэйшай кропкі Беларусі гары Дзяржынская, адкрыццё лыжнага сезона зацягваецца. Пакуль што можна пакатацца на квадрацыклах (25 тысяч рублёў за 1 км). Калі палепшацца ўмовы надвор'я, запрацуе лыжная траса, траса снегаходаў і цюбінга.

Чакае снегу і «Сонечная даліна» — гарналыжны цэнтр ў Курасоўшчыне. Зараз тут працуе толькі вучэбная траса.

**Аксана Рудовіч**

**Як дабрацца да курортаў?**

**«Лагойск»** — 35 км ад Мінска па трасе М3, грамадскі транспарт ад аўтавакзала «Маскоўскі» кожныя 30 хвілін.

**«Сілічы»** — 32 км ад Мінска па трасе М3.

**«Якуцкія горы»** — 37 км ад Мінска. Па гродзенскай трасе да павароту на Дзяржынску, адтуль да павароту на Івянец. Праз Скірмунтава і Скарабагатаўшчыну да вёскі Якуты.

**«Сонечная даліна»** — Мінск, Казінца, 81.

**Комплексам «Лагойск» апякуецца бізнэсовец Юрый Чыж** »

# Сацыяльная сетка Facebook чакае мільярднага карыстальніка

**Асноўная надзея** на Бразілію і Індыю.

Колькасць карыстальнікаў найпапулярнейшай сацыяльнай сеткі Facebook можа дасягнуць 1 мільярда чалавек у жніўні гэтага года. Сваю цікавасць да сайта выяўляюць жыхары краін у стадыі развіцця. Рост колькасці карыстальнікаў забяспечаць такія краіны, як Бразілія і Індыя. На дадзены момант жыхары гэтых краін складаюць у сацыяльнай сетцы 16% і 3% карыстальнікаў адпаведна. Кітай — яшчэ больш перспектыўная пляцоўка, аднак улады гэтай краіны блакуюць доступ да сацыяльнай сеткі.

Па дадзеных на канец верасня 2011 года, у Facebook было 800 мільёнаў актыўных карыстальнікаў. З іх каля 350 тысяч — беларусы. Штодзённая аўдыторыя сацыяльнай сеткі перавышае 400 мільёнаў чалавек.

**Паводле Onliner.by**



15 студзеня ў музеі пад адкрытым небам у Строчыцах адбылася дэманстрацыя абрада «Шчадрэц» з вёскі Рог Салігорскага раёна. Абрад унесены ў спіс нематэрыяльнай спадчыны Беларусі.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



PHOTO.BYMEDIA.NET



PHOTO.BYMEDIA.NET

У Пекіне з'явіліся першыя курсы для жанчын-целаахоўнікаў.

Вялікі баль прайшоў на стары Новы год у будынку Тэатра оперы і балета.



Дзяўчына рэкламуе не сэкс-паслугі, а адно з мінскіх казіно.



## Анекдоты

* * *

Як дабіцца ад беларускага спадарожніка максімальнай карысці для эканомікі? Трэба запусціць на ім у космас наш грашовы станок.

* * *

Пачуўшы апладысменты ў салоне пасля пасадкі авіялайнера, натхнёны камандзір экіпажа неадкладна ўзняў самалёт у неба і выканаў на біс пятлю Несцерава, бочку і іншыя фігуры вышэйшага пілатажу.

* * *

Спаборніцтва паміж ЗША, Вялікабрытаніяй і Беларуссю, хто хутчэй труса схопіць.

Пусцілі труса, той пабег... Рванулі за ім амерыканскія марпехі, праз гадзіну прынеслі за вушы.

Другім быў англійскі спецназ, схапілі за 40 хвілінаў.

Прыйшла чарга беларусаў. Прыйшлі два амапаўцы. Суддзі здзівіліся, маўляў, вы ўдвух не справіцеся... Тыя ў адзін голас: «Фігня»!

Празь сем хвілін выводзяць мядзведзя ў кайданках. Мядзведзь:

— Я трусік, дзе распісвацца?

* * *

Чым спецназ падобны да сабак? Не любяць рэзкіх рухаў, кідаюцца на п'яных і адчуваюць, калі вам страшна.

* * *

Во ў мінулым годзе перад выбарамі паказуха была! І зарплаты падымалі, і кватэры танныя, і мітынгаваць можна, і па тэлеку кандыдатаў паказваюць... А ў гэтым? Прайшла лафа, у іх цяпер снегу на Новы год не дапросішся!

* * *

Таксікаман Вася скраў з заапарка скунса.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Лаўсцікі, каля Воўпы, Гродзенская губерня.** У нас да адной дзяўчыны прыехала чацвёра сватоў з другіх вёсак, а хлопец са сваёй вёскі, каторы тую дзяўчыну любіў, сеў за печ і давай плакаць. Сваты паехалі ні з чым.

**«НН». №2. 1912.**

**У сетцы вяшчання «Радыё-1» з Новага года адсутнічае праграма «Голас душы»**, што транслюе ў прамым эфіры святую імшу з Чырвонага касцёла. Чыноўнікі Белтэлерадыё тлумачаць закрыццё нізкім рэйтынгам — ніхто, маўляў, «Голас душы» не слухаў. Айцец Завальнюк не здаецца і заклікае ўсіх хрысціянаў Беларусі падтрымаць аднаўленне радыёпраграмы.

**«НН». №2. 2002.**


**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Наста Бакшанская
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**





Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7810. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 17.01.2012.
Замова №242.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12